—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
10
МАЯ
1991 г.
№ 19 (3585)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

# ЧЫТАЙЦЕ

## БАРАХОЛКА

Лідзія АРАБЕЙ: «Наша эканоміка існуе невядома для чаго — для плана, для вала, для ідэалогіі. Каб баронь божа не адступіць ад ідэалагічнага накірунку і не страціць камуністычнай перспектывы. А ў перспектыве аказалася барахолка...»

СТАРОНКІ 5, 12.

## ЗОРКА РОСПАЧЫ І ЖАЛОБЫ

Чарнобыльскі раман Івана Шамякіна. Першае прачытанне.

СТАРОНКІ 6—7.

## ТЭАТР ДЛЯ СЯБЕ



Нататкі са штогадовай рэспубліканскай выставы беларускіх сцэнографаў «Вынікі сезона-90».

СТАРОНКІ 10—11.

## СПОВЕДЗЬ КОЛЕРАЎ І ЎЗОРАЎ, альбо Філасофія народнага касцюма



Галіна НЯЧАЕВА: «Старажытная касмалагічнасць касцюма, адлюстраваная ў слове «строй», даўно зарасла новымі парасткамі-значэннямі, таго ж джынсавага радка... Нават гузікі ўсім нам прышываюць сёння аднолькава, а зусім жа нядаўна мыжчыну іх прышывалі крыжам, знакам агню.., жанчыне — ромбікам.., дзіцяці — парасткам, гусінай лапкай...

СТАРОНКА 13.

## «БЫЦЬ ІДЭЙНА-СВЯДОМЫМІ!»

Заўвагі на палях стэнаграмы красавіцкага (1974 г.) пленум ЦК КП Беларусі.

СТАРОНКІ 14—15.



Пажывіце яшчэ, дзядзькі...

Фота А. КЛЕШЧУКА

# ДОБРЫ ЗНАК

## Юр'я ў Мінску

Адраджэнне народных святаў, звязаных з нацыянальна-культурнай міфалогіяй і кананічна-рэлігійнымі традыцыямі, — добры знак дзён сённяшніх. 4 мая Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры зарганізаваў святкаванне Юр'я (сёлета, як і летась, яно прайшло на Белай дачы па вуліцы Казінца ў Мінску).

Першакрыніца свята Юр'я — праваслаўная традыцыя ўшанавання Памяці Св. Георгія Пабедаконосца, які ў 303 г. н. э. прыняў пакутніцкую смерць ад слуг імператара Дыяклціяна, але не зрокся веры хрысціянскай. Дзень 6 мая сёлета — гэта Дзень Пакутаў Св. Юр'я. У праваслаўных цэрквах у гэты дзень правяцца дзве літургіі.

Паспалітую святочнасць распачало набажэнства, якое правёў пратаіерэй Мінскага Кафедральнага сабору а. Георгій Латушка. У ягонай «Малітве за Беларусь» гучалі пажаданні Боскага дабраслаўлення працы сялянства і работніцтва, настаўніцтва і мастацтва, каб праз іхнія высілкі народ беларускі здабыў разумнасць і дабрабыт. Хор хлопчыкаў музычнага ліцэя пры Белдзяржкансерваторыі пад кіраўніцтвам Т. Міронавай выканаў велікодныя канты.

Затым распачалося гульбішча, у якім цешылі грамаду ансамбль «Свята», мінская фальклорная група «Дзяніца», песенныя калектывы з вёсак Светлагорскага і Салігорскага раёнаў. Прыемна было адчуць беларускія матывы ў творчасці гасцей свята — хору казакоў са станіцы Вёшанскай і фальклорнай групы з пасёлка Валдзеева Каношскага раёна Архангельскай вобласці.

Аматары экзотыкі маглі прыдбаць лапці бяроставыя, глечыкі чорнай керамікі, вырабы з саломкі, дрэва, іншыя дзівы старасвеччыны.

...Лічыцца, што Юр'я адчыняе замкі ўрадлівасці, спрычыняецца да квецені прыроды. Хацелася б, каб ён дапамог і нам акрыяць душой і целам, аздобіць свой зямны лёс плённай чыннасцю.

Юрка ЛАГАДА.



Фота А. КАЛЯДЫ.

# ДЫК БУДЗЕМ СЕЯЦЬ!

## Выйшаў соты нумар часопіса «Мастацтва Беларусі»

Чарговы нумар красавіцкі. Як і чакалася, з чарнобыльскай падсветкай... Здавалася б, ці ж да юбілеяў сёння? Дый сто нумароў — не сто гадоў... А, з іншага боку, чым не юбілей? Рэспубліканскага значэння дык пэўна. Бо, пачынаючы са студзеня 1983 года, калі выйшаў першы нумар «Мастацтва Беларусі», часопіс паступова набываў свой твар, рабіўся фактам нацыянальнай культуры і іначасова адлюстроўваў яе.

Не сказаць, праўда, каб гэта лёгка давалася. Не абыходзілася пэўны час без матэрыялаў дыдактычна-зарыентаваных і ідэалагічна правільных. Засталіся ў мінулым і два галоўныя рэдактары. Гэтага чытач, бадай, і не заўважыў, бо што чытачу да кіраўніцтва, яму матэрыялы падавай. І неабавязкова ў духу партыйных указанняў, але абавязкова — напоўненыя духоўнасцю. «Духоўнасць жа,— упэўнены ў калектыве,—трэба ратаваць. Гэта, можа быць, першае, што намераны рабіць часопіс, адлічыўшы «сто тамоў» сваіх «партыйных кніжак». Заклікі, шум і шуманне тут не дапамогуць». Упэўнены, і свой зварот да чытача з нагоды сотага нумара назвалі па-народнаму трапна: «Памірайць збірайся, а жыта сей».

Пра смерць згадана, зноў жа, не дзеля гучнага слоўца. Дамоклаў меч «рэарганізацыі» доўгі час нявісаў над «Мастацтвам Беларусі». У Міністэрстве культуры хацелі замест часопіса стварыць газету па пытаннях культуры. Цяпер вырашана, што і газета будзе, і часопіс застанецца. Зацверджаны і новы галоўны рэдактар. Гэтае крэсла неўзабаве зойме драматург Аляксей Дудараў.

Значыць, застаецца і надалей справу працягваць. Бо тое, што можа і павінна зрабіць «Мастацтва Беларусі», ніхто іншы не зробіць і рабіць не будзе. А як працаваць, не нам, лімаўцам, падказваць. Тым больш, што крочыць нам гэтым шляхам — шляхам Адраджэння — разам.

Сапраўды, неяк жа будзем сеяць... Альбо, як верыў пясняр—«Будзем сеяць, беларусы!»

ЛІМАВЕЦ.

НА ПАВАРОЦЕ

# НАВОШТА МАЛАФЕЕВУ НАДЗВЫЧАЙНАЕ СТАНОВІШЧА?

...Пра гэта, зрэшты, можна было б і праманчаць, — усё ж некалькі тыдняў мінула. Ці ўвогуле не звяртаць увагу, — заклікаюць жа правілы ветлівасці не звяртаць увагу, напрыклад, на тое, што сусед па банкетным стале разліў соус на бялюткі абрус...

Але ж палітэс і палітыка — рэчы розныя. Інакш і сапраўды выступленне лідэра беларускіх камуністаў А. Малафеева на красавіцкім Пленуме ЦК КПСС можна было б расцаніць, як нетактоўнасць. Маўляў, пагарачыўся — прапанаваў увесці надзвычайнае становішча на тэрыторыі СССР, бо толькі яно, на ягоную думку, можа ўратаваць «краіну ад развалу». Аднак згадаем пленум ЦК рэспубліканскага, высунуты на ім лозунг «Сацыялістычная Айчына ў небяспецы!»... Пасля гэтага прапанова А. Малафеева ўспрымаецца як штосьці зусім лагічнае для палітычнай лініі Камуністычнай партыі Беларусі.

Так, «унутрыкамуністычная» барацьба на маскоўскім пленуме, напярэдадні якога было гэтулькі прагнозаў, прычым, самых змрочных, завяршылася нібыта паспяхова для тых сіл у партыі, якія выступаюць за рэформы. Нягледзячы на беспрэцэдэнтна рэзкую крытыку, генеральны сакратар захаваў сваю пасаду. Відавочна, спрацаваў свайго роду інстынкт самазахавання партыі, бо адстаўка М. Гарбачова не толькі хавала б надзею на рэстаўрацыю былой улады партапарату, але і ўвогуле — звязаны з прэзідэнцтвам партыйнага лідэра кіруючы статус КПСС.

Але справа зараз не ў гэтым, а, як кажуць, у прынцыпе. Навошта А. Малафееву надзвычайнае становішча?

Сам першы сакратар ЦК КПБ растлумачыў, што гэта — адзіны шлях дзеля аднаўлення канстытуцыйнага парадку, спынення беззаконня і прадухілення трагічных вынікаў, якія могуць надарыцца ў самы бліжэйшы час. Неабходнасць аднаўлення канстытуцыйнага парадку А. Малафееў непасрэдна звязвае з неабходнасцю аднаўлення даверу да КПСС. Натуральнае жаданне для партыйнага кіраўніка («Партыі хопіць маўчаць, гнуць спіну»). Праўда, ні сам ён, ні ягоныя паплечнікі так і не выйшлі на плошчу Леніна да бастуючых рабочых... Ці значыць гэта, што і давер да КПСС, асабліва на фоне ўсё больш і больш настойлівых патрабаванняў дэпартызацыі, таксама мяркуецца аднаўляць шляхам увядзення надзвычайнага становішча?

Не бяруся сцвярджаць, што менавіта гэта меў на ўвазе першы сакратар. Але ж хіба надзвычайнае становішча ў прынцыпе можа быць гарантыяй усталявання канстытуцыйнага парадку? «Парадку» — магчыма, хоць паняцце гэтае ў нас разумеецца досыць адмыслова... З іншага боку, можна і без прыняцця надзвычайных мер, напрыклад, перакрыць стачкаму доступ да тэлеэфіру, альбо «дэмакратычным» спосабам зацугляць занадта порсткую маладзёжную газету.

І, бадай, самае галоўнае, пра што думаецца, калі даводзіцца чуць заклікі да ўвядзення «прэзідэнцкага праўлення», «заканадаўчага замацавання статуса кіруючай партыі», усталявання «надзвычайнага становішча» ды іншага, з чаго бяздарныя палітыкі спрабуюць змайстраваць выратавальны круг — найперш для сябе, вядома...

Дык вось, думаецца пра тое, з якой жа лёгкасцю могуць быць кінутыя пад жалезны каток дыктатуры парасткі менавіта канстытуцыйнай дэмакратыі, узгадаваныя ў нашых, зусім не спрыяльных дзеля гэтага «кліматычных умовах».

Крыху суцяшае, праўда, той факт, што амаль адначасова з выступленнем А. Малафеева на Пленуме ЦК КПСС, яго таварыш па партыі і прэм'ер-міністр рэспублікі В. Кебіч удзельнічаў у выпрацоўцы вядомага пагаднення «9+1», якое, нягледзячы на палавінчастасць, а шмат у чым і расплывістасць, усё ж прызнае за рэспублікамі статус суверэнных дзяржаў і не пагражае нам надзвычайным становішчам.

Андрэй ГАНЧАРОЎ.



«Чарнобыльскі шлях — 91». Выступае А. Адамовіч.

Фота У. САПАГОВА.




# ЗАЯВА

## Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

Праект Саюзнага дагавору, які па ініцыятыве Вярхоўнага Савета СССР у лютым 1991 года быў прадстаўлены паўнамоцным прадстаўнікам шэрагу саюзных і аўтаномных рэспублік, змяшчае ў сабе палажэнне аб прызнанні за рускай мовай статуса афіцыйнай мовы СССР.

Як вядома, ва ўсіх саюзных рэспубліках, акрамя РСФСР, прыняты законы, паводле якіх мовы карэнных народаў абвешчаны дзяржаўнымі ў межах адпаведных тэрыторый. Закон Беларускай ССР аб мовах адназначна вызначае дзяржаўны статус беларускай мовы ў межах рэспублікі, а рускай — забяспечвае правы мовы міжнацыянальных зносін. Прынцыце азначанага закона стала важным актам гістарычнай справядлівасці і дзяржаўнай мудрасці.

Дзяржаўны статус нацыянальнай мовы рэспублікі з усёй пэўнасцю быў вырашаны самім фактам існавання суверэннай Беларускай ССР, пераняўшай у спадчыну традыцыі беларускай культуры і дзяржаўнасці, якія маюць тысячагадовыя карані.

Улічваючы вышэйзазначаныя палажэнні, а таксама тое, што праект Саюзнага дагавору ў частцы артыкула 20, які вызначае статус рускай мовы, як афіцыйнай, фактычна дзяржаўнай на ўсёй тэрыторыі СССР, супярэчыць Закону БССР аб мовах і Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР,— Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы, выходзячы з інтарэсаў беларускага народа, грунтуючыся на Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце і выкарыстоўваючы канстытуцыйнае права, выступае перад Вярхоўным Саветам БССР з заканадаўчай ініцыятывай не падпісваць Саюзны дагавор у той частцы, якая вызначае статус рускай мовы як афіцыйнай на тэрыторыі СССР.

Артыкул 20 праекта Саюзнага дагавора прапануем назваць: «Дзяржаўныя мовы» і даць у наступнай рэдакцыі: «Моўныя ўзаемадачыненні дзяржаў-удзельніц Дагавору вызначаюцца адпаведнымі рэспубліканскімі заканадаўчымі актамі — Законамі аб мовах».

# ЗВАРОТ

## да народных дэпутатаў рэспублікі ўсіх узроўняў, да ўсіх грамадзян Беларускай ССР, да прыхільнікаў беларускага слова

Сёння зноў, як і дзесяць і пяцьдзесят гадоў назад, аснова культуры народа — нацыянальная мова — у небяспецы! Ва ўмовах прававога і нацыянальнага нігілізму, у выніку бяздзейнасці шэрагу дзяржаўных органаў кіравання, на фоне пагаршэння сацыяльна-эканамічнага становішча працоўных рэспублікі, становішча беларускай мовы ў Беларусі не паляпшаецца, а ў пэўных сферах грамадскага жыцця нават пагаршаецца.

Палажэнні Закона аб мовах у Беларускай ССР, Дзяржаўнай праграмы яго ажыццяўлення, Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, якія вызначаюць у якасці прыярытэтаў адраджэнне беларускай мовы, нацыянальнай культуры і дзяржаўнасці, не сталі законам і пуцяводнай зоркай у службовай дзейнасці кожнага дзяржаўнага служачага— ад міністра да настаўніка, інжынера, работніка ніжэйшага звяна дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання.

Народныя дэпутаты Беларускай ССР, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР і члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у пераважнай большасці не даюць прыкладу паважлівага стаўлення да беларускай мовы, хаця закон, прыняты парламентам, ёсць закон перш за ўсё для саміх заканадаўцаў.

Многія адказныя работнікі Пракуратуры БССР, Савета Міністраў, міністэрстваў і ведамстваў не выконваюць у дачыненні да дзяржаўнай мовы сваіх абавязкаў перад законам.

Далей так працягвацца не можа! Грунтуючыся на палажэннях Закона аб мовах у Беларускай ССР, Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР і зыходзячы з карэнных інтарэсаў беларускага народа, Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае вялікую занепакоенасць адносінамі Вярхоўнага Савета БССР, ураду рэспублікі і выканаўчых органаў улады на месцах да ажыццяўлення Закона аб мовах у Беларускай ССР.

Рэспубліканская Рада ТБМ заклікае ўсіх грамадзян Беларускай ССР паважаць, ахоўваць і развіваць духоўную спадчыну карэннага народа Беларусі, авалодваць беларускай моваю, далучацца да скарбаў беларускай культуры, сплачваючы тым самым свой доўг зямлі, якая была, ёсць і будзе нашым агульным домам, нашай Бацькаўшчынай.

Рэспубліканская Рада ТМБ звяртаецца да народных дэпутатаў рэспублікі ўсіх узроўняў з просьбай актыўна садзейнічаць ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР, помнячы, што беларусы, з'яўляючыся карэннай нацыяй нашай рэспублікі, тут і толькі тут могуць поўна і плённа рэалізаваць свой духоўны і культурны патэнцыял і таму маюць неад'емныя правы на прыярытэтнае развіццё ў сваім уласным доме нацыянальнай культуры і мовы, нацыянальнай школы і сістэмы інфармацыі.

Адначасова Рэспубліканская Рада ТБМ звяртаецца да ўсіх грамадскіх арганізацый рэспублікі, у тым ліку да палітычных партый і руху, а таксама да вернікаў усіх канфесій, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі, паважліва ставіцца да беларускай мовы як мовы дзяржаўнай і ўсямерна спрыяць яе пашырэнню ў грамадскім жыцці рэспублікі.

Таварыства беларускай мовы прыхільна ставіцца да дзейнасці грамадзян Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей, накіраванай на развіццё ўласнай культуры, вітае адраджэнне іх нацыянальнай самасвядомасці і мовы.

Напярэдадні 2-га з'езда Таварыства беларускай мовы, які адбудзецца ў Мінску 14—15 чэрвеня г.г., Рэспубліканская Рада звяртаецца да пісьменнікаў, журналістаў, работнікаў іншых сродкаў масавай інфармацыі шырока разгарнуць дыскусію на старонках перыядычнага друку, на радыё, тэлебачанні, актывізаваць грамадскасць і дзяржаўныя структуры ў дзейнасці па ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР, смела выяўляючы факты невыканання, ігнаравання або адыходу ад палажэнняў згаданага закона з боку адказных работнікаў усіх сфер дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання.

У павестку дня з'езда Таварыства беларускай мовы выносяцца пытанні, якія хвалююць шырокую грамадкасць, увесь народ Беларусі:

— Роля грамадскасці рэспублікі, ТБМ і іншых грамадска-культурных арганізацый у фарміраванні канцэпцыі развіцця культуры ў Беларусі, стварэння нацыянальнай школы і адраджэння беларускай мовы;

— Аналіз дзяржаўнай моўна-культурнай палітыкі ў Беларускай ССР, грамадскі кантроль за ходам ажыццяўлення Закона аб мовах у БССР;

— Удакладненне правапісу беларускай літаратурнай мовы.

У сувязі з тым, што ў складзе Таварыства беларускай мовы зарэгістравана 71 рэгіянальная арганізацыя, а толькі сельскіх раёнаў у рэспубліцы налічваецца 117, Рэспубліканская Рада ТБМ звяртаецца да прыхільнікаў беларускага слова ва ўсіх кутках Беларусі ў перыяд да з'езда ўтвараць ініцыятыўныя групы і, правёўшы ўстаноўчыя рэгіянальныя канферэнцыі ТБМ, вылучыць сваіх дэлегатаў на з'езд Таварыства і ў далейшым усямерна садзейнічаць вырашэнню яго статутных задач.

Няхай жыве і квітнее беларуская мова — гаспадыня ў сваім дзяржаўным доме, у Беларусі, і раўнапраўная сястра ў вялікай сям'і моў свету!

**Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.**

г. Мінск.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ПАКУЛЬ ЖЫВЫ НАРОД...

У рэспубліканскім друку не змяншаецца колькасць публікацый пра лёс беларускай мовы. Частка аўтараў заяўляе, што час упушчаны і колькасць носьбітаў мовы скарацілася да такога ўзроўню, калі працэс моўнай асіміляцыі стаў неабарачальным.

Становішча сапраўды цяжкае. Але ў сучаснай гісторыі ёсць прыклад мовы, адроджанай нават праз стагоддзі забыцця.

Гаворка ідзе пра мову іўрыт. Старажытнаяўрэйская мова, мова Біблії, перастала ўжывацца ў гаворцы больш за дзве тысячы гадоў назад. Са штодзённага жыцця яна была выцеснена арамейскай мовай. Іўрыт засталася мовай культу і літаратуры. На ёй размаўлялі паміж сабой яўрэйскія вучоныя, якія жылі ў розных краінах Захаду і Усходу. У яўрэйскім асяроддзі яна іграла ролю, у нечым падобную на ролю латыні ў сярэдневяковай Еўропе. Скарачэнне сферы ўжытку мовы прывяло да спынення росту яго слоўнага запасу, іўрыт усё больш пераўтвараўся ў гістарычны помнік. Садзейнічала гэтаму і развіццё народжаных у сярэднія вякі новых яўрэйскіх моў і дыялектаў — ладзіна, яўрэйска-арабскай, яўрэйска-персідскай і, асабліва, ідыш, якая намаганнямі яўрэйскіх пісьменнікаў расійскай расы аседласці да пачатку XX стагоддзя ператварылася ў жывую і багатую літаратурную мову.

Але тады ж, у XIX стагоддзі, пад уплывам ідэй асветніцкага руху Гаскалы, у Польшчы, Літве, Беларусі, на Украіне ўзрастае цікавасць да старажытнаяўрэйскай мовы. Друкуюцца раманы, паэтычныя творы, узнікаюць новыя жанры — драма, сатыра, публіцыстыка. На іўрыт перакладаюцца творы Пушкіна, Гейнэ, Шэкспіра, Гамэра. У 1860 годзе ў Вільні (і ў тым жа годзе ў Адэсе) пачынае выходзіць першая газета на іўрыце. Вялікі ўклад у развіццё іўрытамоўнай літаратуры ўнёс ураджэнец Беларусі Мендэль Мойхер-Сфорым, вяршыняй новай літаратуры робіцца паэзія Х. Г. Бяліка.

Але ўсё ішло да таго, што гэта бурнае развіццё можа застацца толькі адным з узлётаў, такія ўжо былі ў гісторыі іўрыту (напрыклад, сярэднеяковая іспана-яўрэйская паэзія). Кола тых, хто валодаў мовай, заставалася вельмі вузкім, у штодзённае жыццё мова выхаду не мела.. Нямногія выдатныя пісьменнікі пісалі для невялікай колькасці знаўцаў і цаніцеляў (ці не нагадвае гэтая сітуацыя штосьці беларускаму чытачу?).

Становішча было такое, што калі заснавальнік палітычнага сіянізму Тэадор Герцль пісаў сваю знакамітую кнігу «Яўрэйская дзяржава», ён у ёй адвяргаў саму магчымасць прымянення іўрыту ў будучай яўрэйскай дзяржаве, рытарычна ўсклікаючы: «Ці ж ёсць хто-небудзь, хто, карыстаючыся ёй, мог бы купіць сабе, напрыклад, хоць бы чыгуначны білет?»

Але адраджэнне іўрыту толькі пачыналася. У 1896 годзе, калі Герцль выдаў сваю кнігу, у Палестыне, упершыню за сотні гадоў, жыло дзіця, для якога іўрыт была адзінай вядомай мовай. Гэта быў сын Элізэра Бен-Іехуды. Ураджэнец Літвы, Бен-Іехуда ў 1881 г. пераехаў у Палестыну і пачаў барацьбу за ўкараненне размоўнага іўрыту ў штодзённае жыццё. На гэтым шляху ён прайшоў праз неразуменне, насмешкі, праследаванні, Бен-Іехуда выдае газеты на іўрыце, дамагаецца вывучэння гэтай мовы ў навучальных установах Палестыны, працуе над узбагачэннем яго лексікі. У 1910 годзе ён пачынае выданне «Поўнага слоўніка старажытнага і сучаснага іўрыту». Гэта грандыёзная праца прадоўжана многімі вучонымі. Апошні, 18-ты том слоўніка, быў выдадзены ў 1959 годзе, праз 37 гадоў пасля смерці Бен-Іехуды.

На рубяжы стагоддзяў у лёсе іўрыту адбываюцца вырашальныя перамены. У Палестыну пачынаюць прыбываць эмігранты з Расіі, Румыніі, Аўстра-Венгрыі, у асноўным моладзь. Натхнёныя высокімі ідэямі нацыянальнага адраджэння, разам з укладам і псіхалогіяй рысы аседласці яны адвяргаюць і новыя яўрэйскія мовы, лічачы іх мовамі выгнання. Іўрыт робіцца састаўной часткай духоўнага адраджэння нацыі. У новых сельскагаспадарчых пасяленнях Палестыны гавораць толькі на іўрыце — гавораць з цяжкасцю, адначасова вывучаючы і развіваючы старажытную мову, набліжаючы яе да жыцця, мадэрнізуючы, уводзячы ў яе новыя працоўныя, палітычныя, а калі спатрэбілася, то і ваенныя тэрміны. У дзяцей гэтых пасяленцаў ужо не было ад нараджэння іншых моў, акрамя іўрыту. Старажытная мова стала роднай для соцень тысяч людзей. І калі праз некалькі дзесяцігоддзяў была зноў створана яўрэйская дзяржава, іўрыт, разам з арабскай, абвяшчаецца дзяржаўнай мовай.

А ў Савецкім Саюзе лёс іўрыту склаўся інакш. У 1919 годзе ён быў забаронены як мова рэакцыі і контррэвалюцыі. Закрываюцца перыядычныя выданні, знішчаюцца кнігі. Некаторым іўрытамоўным пісьменнікам дазволілі ў пачатку 20-х гадоў выехаць з Савецкага Саюза, іншыя пайшлі ў падполле.

Гэта трагічная і гераічная старонка ў гісторыі літаратуры на іўрыце. Пісьменнікі гінулі ў турмах і лагерах, напісанае знікала назаўсёды, веданне мовы ўтойвалася. Але і ў самыя страшныя гады, нават у гітлераўскіх лагерах смерці і на астравах сталінскага ГУЛАГа не спынялася тайнае вывучэнне мовы.

Іўрыт, як і ў пачатку стагоддзя, робіцца сімвалам нацыянальнага адраджэння. Ствараюцца новыя творы, часам такія нечаканыя, як, напрыклад, пераклад на іўрыт Х. Ленскім эпасу народа мансі «Кніга тундры».

Вось чаму мне падаюцца занадта песімістычнымі словы В. Сазонава. («ЛіМ», № 2, 1991 г. «...Каб не ўмёрлі!»): «Ніводны народ, які страціў сваю мову, не застаўся на зямлі». Сувязі паміж мовай і народам больш складаныя, і прыклад іўрыту паказвае, што ніводная мова не можа лічыцца стрычанай, пакуль жывы народ.

**Е. РЫУКІН.**

г. Бабруйск.

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

## ХТО ТЫ, ВЁСКА?..




**Краязнаўчая і гісторыка-краязнаўчая літаратура, якую выпускае выдавецтва «Полымя», карыстаецца папулярнасцю ў чытача. Найперш гэта—нарысы пра беларускія гарады, пра мінулы і сённяшні дзень асобных раёнаў. Зроблены і яшчэ адзін крок — толькі што выйшла кніга Паўла Стасевіча «Вёска над Ясельдай». Папярэдніцай гэтай кнігі можна назваць, бадай, нарыс «Была такая вёска» М. Улашчыка, выпушчаны «Мастацкай літаратурай». Апошні распавядаў пра багатую гісторыю сваёй роднай вёскі Віцькаўшчына, што на Дзяржыншчыне. П. Стасевіч расказвае пра гісторыю і сённяшні дзень вёскі Моталь у Іванаўскім раёне.**

**Расказаць пра Моталь ёсць што. Вёсцы больш за 500 гадоў. У тутэйшых жа мясцінах археолагі выявілі стаянкі чалавека каменнага веку і пасяленне ранняга жалезнага веку... Аўтар запыняе ўвагу толькі на найбольш значных момантах гісторыі Моталя. А што калісьці гэта было далёка не ардынарнае паселішча, сведчыць хоць бы назва аднаго з раздзелаў кнігі—«Магдэбургскае права». Ды і ў наступных («Не панскім загадам, а сваім розумам», «Паўстанні, войны, падзелы», «Напалеонаўская навала», «Дзяржаўныя сяляне» і іншыя) П. Стасевіч пераканаўча сведчыць, што ў гэтым кутку Палесся адбываліся значныя падзеі, што тут спрадвеку жылі таленавітыя і прагныя да волі людзі.**

**Цікавы раздзел «Скарб Марыі Саковіч». Гэтая жанчына, якая ў свой час стала членам Імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства, нарадзілася ў суседняй з Моталем вёсцы Моладава, але менавіта тут, у Моталі, праводзіла яна ў мінулым стагоддзі гісторыка-этнаграфічныя даследаванні і напісала кнігу «Сяляне мястэчка Моталь і іх песні». Яна выйшла ў 1888 годзе з артыкулам-рэцэнзіяй вядомага рускага кампазітара М. Балакірава.**

**Абапіраючыся на сведчанні М. Саковіч, П. Стасевіч узнаўляе многія абрады і звычаі палешукоў.**

**Дарэчы, пра культурнае жыццё мотальцаў можна даведацца з раздзелаў «І тчэ, забыўшыся, рука...», «Святы, гульні, песні, гаданні», «Вытокі народныя» і іншых. Пра гэта нельга было не сказаць, бо далёка за межы рэспублікі пайшла слава пра мотальскія ручнікі, кажухі, іншыя вырабы народных умельцаў.**

**Важны ў выданні і яшчэ адзін момант. Моталь, як вядома, знаходзіцца на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Сёння ж ёсць, на жаль, ахвотнікі ледзь не перакрэсліць значэнне ўз'яднання ў адзінай савецкай сям'і. І добра, што аўтар распавядае і пра тое, як людзі радаваліся прыходу Чырвонай Арміі, як змагаліся яны ў гады фашызму з гітлераўскай навалай...**

**Добра, што выдавецтва «Полымя», уваходзячы ў рынак, знаходзіць магчымасць выпускаць краязнаўчыя выданні, клапоціцца не аб прыбытках, а аб духоўным узбагачэнні чалавека.**

**А. АН-ЕВІЧ.**

# Зорка роспачы і жалобы

Іван Шамякін адразу ж пасля аварыі пабываў на засмечанай радыенуклідамі палескай зямлі. Але твор з'явіўся толькі праз пяць гадоў. Спатрэбіўся час, каб у мастацкім асэнсаванні перажыць шчымлівы боль беларусаў — чарнобыльскую бяду.

Раман «Злая зорка» («Полымя», 1991, №№ 1—2) — гэта своеасаблівы дакумент часу, галоўным героем якога ва ўсёй сваёй жудаснай яве паўстае тая сістэма, на рахунку якой перакрэсленыя чалавечыя жыцці, пакалечаныя лёсы, страчаныя надзеі.

Дзеянне твора адбываецца ў адным з раёнаў Гомельскай вобласці. Мы знаёмімся з жыццёвымі клопатамі палешукоў, з сем'ямі старшыні райвыканкома Пыльчанкі і старшыні калгаса Пустахода, у якіх увасоблены асноўныя рысы характару беларуса: любоў да зямлі, цягавітасць, цярплівасць...

Шамякін умее ў звычайным убачыць значнае, у адной думцы сканцэнтраваць мноства псіхалагічных ніцяў, нюансаў, вытокі якіх — у глыбінях душы героя: «А між іншым добра, што можна палюбавацца полем і вясной. Ці любуюцца хоць маладыя? Няхай бы напоўніліся рамантыкай, паэзіяй. Сыны яго. Ці засталася яна ў іх душах пасля таго, як адзін панюхаў пораху і пабачыў кроў, а другі без малога два гады сядзіць на атамным рэактары? Як здарылася, што ён ніколі не пагаварыў з імі на гэту тэму? Ладна, Барыс... калі яго бачыць? А Глеб жа штотыдзень прыязджае дадому. Робаты мы».

Бюракратычны рэжым аказвае ўплыў і на лепшых людзей, такіх, як Пыльчанка. Уладзімір Паўлавіч крыху нібы саромеецца сваяцтва з сям'ёй свайго сябра Пустахода, шумнага багатага вяселля свайго сына і яго дачкі. Яму цяжка пераадольваць штучную прыстойнасць, закамплексаванасць, якая моцна прыжылася ў лабірынтах кіраўнічых кабінетаў, бо ён — чалавек сумленны, адкрыты. Адсюль і «незадаволенасць сабою», сваім як бы «начальніцкім» стаўленнем да вяселля.

Пасля такіх унутраных сумненняў героя крыху іранічна ўспрымаюцца думкі Пыльчанкі аб незалежнасці Барыса, «такой, як у яго, бацькі», і аб разгубленасці Глеба, які — у маці з яе «заўсёднымі сумненнямі, аглядкамі на людзей — што тыя скажуць». Аўтар нібы прадчувае ваганні чытача: «Чаму азіраешся? Ты ж і ў даўні час умеў быць незалежным... Ад каго? Ад начальства? Ад грамадскасці? Не прыхарошвай сябе. Заўсёды ты адчуваў сябе залежным. Толькі хіба больш дзёрзскім, чым некаторыя іншыя».

Такое самабічаванне героя, саматоеснасць, самааналіз стварае тую атмасферу даверу і шчырасці паміж аўтарам і чытачом, якая так неабходна ў мастацкім творы.

Прыём саматоеснасці, самараскрыцця героя, які Шамякін паспяхова выкарыстоўваў у папярэдніх творах («Снежныя зімы», «Вазьму твой боль» і інш.), знаходзіць працяг і ў рамане «Злая зорка». Унутраныя маналогі Пыльчанкі нагадваюць маналогі Антанюка ў «Снежных зімах». Чалавечая, грамадзянская роднаснасць Антанюка і Пыльчанкі відавочная. Гэта сведчыць аб тым, што на працягу многіх гадоў пісьменнік стварае вобраз героя свайго пакалення, які ўбірае ў сябе найбольш характэрныя рысы сучасніка.

Неардынарны ў рамане вобраз пачынаючага кіраўніка першага сакратара райкома Сінякова, які сам па сабе, як лічыць Пыльчанка, «не дурны ж чалавек, а бывае фармалістам». Менавіта ў вусны Сінякова аўтар укладвае на першы погляд шчырае, бяскрыўднае, хаця і па-начальніцку заштампаванае віншаванне маладым, якое ў хуткім часе набудзе ў творы злавесны сэнс:

«— Што пажадаць вам, маладыя? Спачатку просьба да цябе, Глеб. Упікнуць цябе, што ты працуеш у суседняй рэспубліцы, мне не дазволена, я — інтэрнацыяналіст. Ды і станцыя атамная, гонар нашай энергетыкі. І нам дае ток. Але паколькі гэта не за гарамі, і я так часта бачу цябе дома, не вывозь ад нас урача. Ірына Іванаўна, спадзяюся на ваш патрыятызм. Усе Пустаходы — патрыёты свайго раёна. Няхай жа і Пыльчанкі прыжывуцца тут. Няхай жа ножкі вашых дзяцей узнімаюць пылок гэтай благаславёнай пладавітай зямлі, якая будзе багацець з кожным годам, з кожным ураджаем. Добрага ж ураджаю вам!»

Першы сакратар на другі дзень пасля аварыі і не чуў пра яе. Недарэчна, прыкра, што Сінякоў дапякае Пыльчанку ў такі крытычны момант за канфуз на вяселлі. Вестку пра аварыю Пятро Міхайлавіч сустракае рэплікай: «Ёсць людзі, якія гэтым займаюцца». Спакойна-няспешны рытм твора набывае трывожную напружанасць, адрывістасць, суровы лаканізм:

«— Што вы так узвінцілі сябе? Дзякуй богу, ніхто не наступае.

— Не наступае? Невуцтва наступае! Разгільдзяйства! Безадказнасць! Самазаспакоенасць!

— Ну і ну, сапраўды невясельны ў вас настрой».

Сінякоў трымціць, перажывае з-за задзірыстасці і неўтаймаванасці Пыльчанкі, які не маўчыць, не прытрымліваецца субардынацыі. Першы сакратар знаходзіцца на нейкіх нябачных вагах паміж бюракратычнай запраграмаванасцю і дэмакратычнай нязмушанасцю, раскаванасцю. Нейкі нябачны бар'ер перашкаджае яму адчуць асалоду самастойнага мыслення, радасць самаадкрыцця. Кім ён стане — у многім залежыць ад самога. З аднаго боку, ён стрыечны брат Лявонція (бюракрата рэспубліканскага маштабу), але было б несправядлівым не заўважыць, якія змены, няхай пакуль нязначныя, адбываюцца ў адносінах Пятра Міхайлавіча да справы, да людзей пад дабратворным уплывам Пыльчанкі. І ўсё ж: ці не занадта хутка Сінякоў перамяніўся ў лепшы бок. Тым больш, што сам ён, бадай, не праяўляе асаблівай руплівасці, патрыятызму. Такія, як ён, — выканаўцы, а не першапраходцы. Сама па сабе выканаўчасць — рыса станоўчая, але адсутнасць самастойнай думкі часам ператварае яе ў звычайнае бяздумнае паслушэнства. Страх перад вышэйстаячымі нагнятае гэтае паслушэнства, прыніжае чалавека да таго, што першы сакратар гатоў ахвяраваць усім (дзецьмі, сям'ёй), толькі б не падумалі пра яго як пра панікёра. Разам з тым у першы ж зручны момант Сінякоў пакідае наседжанае месца дзеля не менш высокай пасады ў чыстай зоне.

Фармалізм і ілжэпатрыятызм, знешні паказны клопат аб чалавеку параджаюць такіх, як сакратар райкома камсамола Плечка. Недарэчны падарунак маладым (бюст Карла Маркса) і няўдалы тост Плечкі пра «інтэрнацыянальны доўг», пра Афганістан, у якім ён, па яго словах, «на жаль» не быў, выклікае ў афганца Барыса пратэст, абурэнне: «Не доўг я аддаваў. Я паліваў агнём... людзей! Пасля адной атакі я адмыць сябе не магу... дагэтуль... Дзіця баюся па галаве пагладзіць...»

Завязваецца канфлікт, які ў хуткім часе будзе каштаваць Барысу жыцця. «Увогуле характар у яго мяккі, бязвольны, таму і быў ён падлізлівы, угодлівы, як усе бязвольныя. Плечка дараваў Барысу абразу Карла Маркса», — заўважае аўтар. Але і гэтая нібыта бяскрыўдная аўтарская іронія напаўняецца глыбокім падтэкстам. Бо такія, як Плечка, не ўмеюць дараваць. Яны прывучаны толькі помсціць.

Сцэна вяселля канцэнтруе ў сабе тыя пагрозлівыя імпульсы, якія паступова набываюць выбуховы, глыбока сацыяльны, філасофскі сэнс. Аўтар свядома пазбягае кантрастных колераў дачарнобыльскага (мірнага, светлага) і паслячарнобыльскага (трагічнага, змрочнага) часу, хаця, здавалася б, яны самі напрошваюцца ў творы. Ён застаецца верным праўдзе жыцця. Чарнобыльская трагедыя — з'ява невыпадковая. Яна — лагічны вынік безгаспадарлівасці, нядбайнасці, пампезнасці, прыніжэння чалавека і фанатычнага ўзвышэння ідэі.

Туманны, няшчыры погляд на рэчаіснасць сфарміраваў «туман» чарнобыльскай бяды, які ўпершыню ўспрымаецца ў творы вачамі Глеба і Ірыны, маладых палешукоў, закаханых адзін у аднаго і ў свой старажытны край, які ўяўляецца ім «цэнтрам зямлі». Вяселле ператварылася ў памінкі па іх бясхмарнай маладосці. Выяўляецца недасведчанасць і наіўная перакананасць, легкадумства ў пытаннях радыяцыйнай бяспекі, якая выразна перадаецца праз рэпліку Глеба: «Гэтага не можа быць, таму што гэтага не можа быць ніколі! За два гады я вывучыў рэактар. Надзейны, што бабулін чыгунок».

Пыльчанка ў адчаі. Усё робіцца, каб схаваць ад людзей страшную навіну. Уладзімір Паўлавіч сэрцам адчувае значнасць той бяды, якая адбылася. Яго гняце горыч бездапаможнасці. Сцэна на стадыёне, дзе сабралася мноства людзей на спартыўнае свята, якое марна імкнуўся адмяніць Пыльчанка, з аднаго боку, узмацняе напружаны ўнутраны стан героя, і з другога — дакладна перадае стан затарможанасці і раўнадушша тых, хто бярэ на сябе адказнасць за лёс народа. З Лявонціем і яго падапечнымі чытач пазнаёміцца потым. Але ў творы ўжо створана адпаведная атмасфера іх непрымальнасці, якая набывае ўсё больш суровы, бязлітасна-выкрывальны характар.

Шамякін карыстаецца рознымі сродкамі, выводзячы ў існым выглядзе носьбітаў высокіх ідэалаў і іх верных паплечнікаў (іронія і сарказм, самахарактарыстыка героя, дынамічнасць дыялога, сюжэтна-кампазіцыйныя павароты). Ён выходзіць за рамкі раённага маштабу ў міністэрскія кабінеты. З калейдаскапічнай хуткасцю чаргуюцца ў рамане падзеі: Палессе — Масква, Палессе—Мінск, Палессе — Кіеў і г. д. Кантраст паміж паспешлівай пераменай месца дзеяння і бяздзейнасцю, запаволенасцю адказных асоб стварае малюнак нейкага бясконцага кругавароту, ненатуральнасці, падкрэслівае неадпаведнасць паміж словамі і справай, узмацняе пачуццё трывогі і роспачы.

У сваіх папярэдніх творах («Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды») І. Шамякін закранаў праблемы міністэрскай бюракратыі. Але найбольш поўна і ярка, ва ўсім сваім пачварным абліччы паўстала яна (бюракратыя) ў вобразе Лявонція Мікалаевіча — кіраўніка рэспубліканскага значэння.

Дыялогі Лявонція — Вадалея з падначаленымі і з людзьмі «вышэйшага гатунку» псіхалагічна насычаныя, вылучаюцца яркай кантрастнасцю, што сведчыць не толькі аб хамелеонаўскай сутнасці першай асобы, але і аб абмежаванасці яго інтэлекту, адсутнасці пачуцця перспектывы, адказнасці перад народам. Добра засвоеныя і правераныя сталінскія прыёмы (дэспатызм, непрыманне процілеглага пункту гледжання) скоўваюць яго. Характарыстыка Лявонція аздоблена едкімі сатырычнымі фарбамі. Знешне — гэта зусім станоўчая, нават бездакорная характарыстыка: «Лявонцій Мікалаевіч — вялікі працаўнік. У яго пурытанскім жыцці — не піў, не курыў, не гуляў ні ў карты, ні ў більярд, на лыжах, праўда, хадзіў — тры дні сну былі ўзнагародай не толькі самому сабе: усе шанавалі і пільна ахоўвалі яго сон. Акрамя зяця». Якраз непавага «няўдзячнага свінтуха-зяця» надзвычай імпануе чытачу, яна як нельга лепей супадае і з аўтарскімі адносінамі да героя.

Іван Мікалаевіч, загадчык аддзела навукі — вобраз сціплага, тыповага выканаўцы, асноўная задача якога — прадбачыць настрой, рэакцыю шэфа і своечасова адрэагаваць. Чалавечак ён нібыта і неблагі, але справа ў тым, што чакаец-

ца скарачэнне і неяк трэба яму ўтрымацца. Жыццё — штука складаная...

У здзекліва-сатырычным плане паказаны міністр аховы здароўя, генерал, адказны за грамадзянскую абарону, міністр культуры. Дыялог кіруючых асоб пасля пасяджэння па пытанні Чарнобыля сведчыць не аб дысцыплінаванасці і аператыўнасці, а аб жывёльным страху перад непрадбачаным, невядомым, жахлівым напярэдадні вымушанай камандзіроўкі ў зону.

Івану Шамякіну ўласціва нейкая асаблівая пяшчота, бацькоўскі клопат у адносінах да жанчыны. Вобразы Вольгі Андрэеўны і Ірыны ў рамане «Злая зорка» кранаюць сваёй абаяльнасцю, паэтычнасцю, нейкай асаблівай, уласцівай толькі закаханаму сэрцу, цвёрдасцю. Сялянская разважлівасць, няспешнасць абедзвюх гераінь у выбары неабходнага рашэння імгненна перасякаецца ў крытычны момант пачуццём бязлітаснай у дачыненні да сябе самаахвярнасці.

«— Мама! Я паеду туды...— Не, дачка, паеду я».

Мацярынскі інстынкт, жаданне засланіць сабой дарагога чалавека, сына, каханага, вядзе сталую, вопытную і зусім яшчэ маладую жанчыну ў вогнішча Чарнобыля. І яшчэ — няпэўнасць ва ўсім, якая страшней за ўсё. Як дзве ўстрывожаныя птушкі, над гняздом якіх навісла небяспека, яны не могуць болей чакаць, яны павінны нешта рабіць. І яны зрываюцца з дому, каб усё пабачыць сваімі вачамі, аб пераканацца, што Глеб жывы, што «яму нічога не пагражае».

Трагічны ў рамане вобраз Лізы, першай ахвяры Чарнобыля, клапатлівай маці, шчырай працаўніцы, якая гіне і ад радыяцыі, і ад людской чэрствасці і нядбайнасці. Трагічныя і вобразы Барыса, які гіне ў Афганістане, і яго маці, Вольгі Андрэеўны, якая нібы прымае на сябе боль і пакуты усіх дзяцей.

Аўтар не нагнятае падзеі. Яны — вынік складанасцей жыцця.

Сімвалічныя ў рамане вобразы асірацелых дзяцей, адзінокага непрыбранага хлебнага поля, апусцелай вёскі, устрывожаных птушанят, якіх не можа выратаваць чалавек, сонца, якое нібы «адарвалася ад неба, а зямля не прымае яго, і яно павісла. І гэтак будзе вісець. І не здолее ўзысці, страціўшы сілу». Ці знойдуць калі-небудзь спакой людзі, якіх гора адарвала ад сваіх каранёў? Як прыме іх новы свет, новы край? Ці вернуцца да іх страчаныя сілы, спадзяванні?

Цяжка сказаць.

Канец рамана трагічны, адпаведны нашаму трывожнаму, складанаму часу, таму псіхалагічнаму клімату, які склаўся на Беларусі ў апошнія гады. Але хочацца верыць у лепшае. Ёсць, на наш погляд, у рамане не толькі злая зорка народнага гора, але і зорка надзеі.

Засмучаюць на старонках рамана грубыя прастамоўныя словы, якія, магчыма, у нейкай ступені дапаўняюць і ўзмацняюць стан безвыходнасці, як існуе ў жыцці ў сувязі з чарнобыльскай трагедыяй. Ды мог жа пісьменнік раней абыходзіцца без іх. Як бы там ні было, а літаратура — з'ява эстэтычная.

Але недахопы не засланяюць галоўнага. Створаны першы беларускі раман аб Чарнобылі.

**Галіна ДАШКЕВІЧ.**

г. Мазыр.

# ШТО ПАКАЗАЎ КОНКУРС...

**Сёлета месцам правядзення чарговага, XXIII традыцыйнага конкурсу «Мастацтва кнігі-90», у якім прымаюць удзел рэспублікі Прыбалтыкі і Беларусь, стаў Мінск. Мерапрыемства, можна сказаць, звычайнае, калі ўлічыць, што такія агляды праходзяць штогод. Тым не менш, прымаючы пад увагу цяперашнюю палітычную абстаноўку ў краіне, напачатку не было пэўнасці, ці адкажуць узаемнасцю на запрашэнне выдаўцы з Латвіі, Літвы, Эстоніі. Але, так бы мовіць, здаровы сэнс перамог. Над усім узяла верх пераканананасць: традыцыі, якія складваліся на працягу гадоў, неабходна развіваць і падтрымліваць.**

**Пра тое, як праходзіў конкурс, нашаму карэспандэнту расказвае старшыня журы, старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку Анатоль БУТЭВІЧ:**

— Па ўмовах конкурсу, якія вытрымліваюцца на працягу многіх гадоў, у гэтым творчым спаборніцтве могуць прыняць удзел па дваццаць пяць выданняў ад кожнай рэспублікі. Праўда, сёлета было прадстаўлена не сто, а ўсяго 85 кніг. Мы, дарэчы, вынеслі на суд аўтарытэтнага журы менавіта 25 выданняў, але асобныя рэспублікі палічылі патрэбным зменшыць іх колькасць. Што ж, таксама зразумела ды і апраўдана: патрабаванні да падобных конкурсаў прад'яўляюцца вельмі высокія. Кожная кніга ацэньваецца як па мастацкім афармленні, так і па паліграфічным выкананні. Адпаведна прысуджаюцца дыпломы І, ІІ і ІІІ ступені. Адна кніга можа атрымаць і два дыпломы — і за мастацкае афармленне, і за паліграфічнае выкананне.

**— Анатоль Іванавіч, кожная рэспубліка прапанавала на конкурс лепшыя, на яе думку, кнігі. Але ж выданні розныя і патрабаванні, якія прад'яўляюцца ім, таксама. Скажам, энцыклапедычны фаліянт і паэтычны зборнік. Як іх супаставіць?**

— А рабіць гэта ніхто і не збіраўся. Ацэнка вартасцяў праводзілася па відах літаратуры. У асобныя групы вылучаліся грамадска - палітычныя выданні, дзіцячая, вучэбная (у тым ліку і падручнікі), энцыклапеды і энцыклапедычныя даведнікі, выданні па мастацтве і альбомы, факсімільныя і мініяцюрныя выданні, календары. Гэта для таго, каб стымуляваць, заахвоціць працу мастакоў, выдаўцоў, паліграфістаў.

**— І якія вынікі конкурсу?**

— З усіх кніг дыпломамі І ступені за мастацкае афармленне і паліграфічнае выкананне адзначаны толькі пяць. Гэта— «Фаўна Літвы. Птушкі», «Медны коннік» А. С. Пушкіна (Эстонія), эстонскае факсімільнае выданне «Біблії» і дзве нашыя кнігі. Кнігу-малютку «Беларуская кухня» выпусцілі выдавецтва «Ураджай» і паліграфкамбінат імя Якуба Коласа. Раман-эсэ А. Лойкі «Францыск Скарына, альбо Сонца маладзіковае» — выдавецтва «Мастацкая літаратура» і паліграфкамбінат. Сярод адзначаных дыпломамі — «Апошнія пісьмы і артыкулы» У. І. Леніна, альбом «Беларусь партызанская», «Сымон-музыка» Якуба Коласа, П. Мерыме «Навелы» (серыя «Скарбы сусветнай літаратуры»), «Параненая памяць» І. Новікава, «Беларускія народныя казкі», казка «Залатое пяро» і іншыя. Усяго ў нас 35 дыпломаў, з іх за мастацкае афармленне — 14, астатнія — за паліграфічнае выкананне. Канечне, поспехі паліграфістаў не могуць не радаваць, аднак ёсць падставы для роздуму. У рэспубліцы, можна сказаць, свая графічная школа, працуюць у галіне кніжнай графікі многія вопытныя майстры. Значыць, трэба выдаўцам больш увагі звяртаць на мастацкае афармленне. Трэба наладжваць сувязі з Беларускім тэатральна-мастацкім інстытутам, прыцягваць да афармлення таленавітых студэнтаў, маладых мастакоў. Магутнаму лесу неабходны моцны і квітнеючы падлесак. Калі ж праводзіць паралель з суседзямі, дык у прыбалтаў мастацкае афармленне на больш высокім узроўні. Праўда, у іх горш з паліграфічным выкананнем.

**— Але ці не здаецца вам, што хутка і ў нас не будзе каму дбаць, каб кніга глядзелася? Найперш, відаць, пацерпяць беларускамоўныя выданні. Тыражы іх, на жаль, невялікія, а паліграфісты павінны дбаць аб прыбытках. У сувязі з гэтым яны і дадуць (што ўжо і робяць) зялёную вуліцу камерцыйным выданням...**

— Адно магу сказаць: любая, самая смелая мастакоўская задума на сённяшні дзень паліграфістамі можа быць ажыццёўлена. Так што справа за мастакамі. А што да кніг на беларускай мове, то гэта найпершы клопат — і выдаўцоў, і паліграфістаў. Каму ж, як не нам, працягваць скарынаўскія традыцыі.

**— У рэспубліцы, як і ў іншых, сёння кнігі выпускаюць не толькі дзяржаўныя выдавецтвы, а і іншыя арганізацыі. Асобныя з іх, відаць, таксама маглі б прыняць удзел у конкурсе?**

— На цяперашні момант у нас, на Беларусі, ужо дазволена выдавецкая дзейнасць амаль 40 арганізацыям. Яны таксама змогуць прымаць удзел у конкурсах, калі вытрымаюць, як кажуць, канкурэнцыю з дзяржаўнымі выдавецтвамі.

**— Значыць, трэба чакаць чарговых конкурсаў — і рэспубліканскага, і міжрэспубліканскага?**

— Рэспубліканскі адбудзецца ў пачатку 1992 года, як звычайна ў Мінску, а міжрэспубліканскі, «Мастацтва кнігі-91», у Таліне...

**— У Таліне?**

— Але, у Таліне. І гэта не можа не радаваць, як і тое, што да падобнай згоды прыйшлі ўсе. Сапраўды, палітыка палітыкай, а духоўнае, культурнае жыццё не можа спыняцца.

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# МАЎЧАЦЬ НАШЫ КРЫТЫКІ

У гэты пераломны час, калі нацыя, нарэшце, атрымала права на развіццё сваёй мовы, культуры, літаратуры, трэба дбаць пра тое, каб максімальна выкарыстаць гэтае права. Менавіта цяпер трэба ствараць такія творы, якія б захаплялі людзей.

Паглядзіце, паслухайце, з якім пачуццём выяўлялі думкі народа нашы паэты ў час барацьбы з фашызмам:

Радзіма мая, радасць мая,
Песня мая маладая!
Па нівах тваіх, па тваіх гаях
Сынава сэрца рыдае.
(Пімен Панчанка)

Хочацца, каб і зараз у нашай маладой паэзіі «рыдала сэрца», каб была галоўным лейтматывам тэма любві да роднай зямлі, да бацькаўшчыны, да чалавека працы.

А што ж адбываецца на самай справе?

Прачытаў некалькі падборак вершаў маладых паэтаў у газеце «ЛіМ». Добра робіць рэдакцыя, што адводзіць месца такім падборкам. Аднак, мне здаецца, на старонках выдання творчай інтэлігенцыі трэба змяшчаць узоры.

У газеце № 5 за 1991 год змешчана нізка вершаў Алеся Бадака з кнігі «За ценем самотнага сонца». Чаго варта сама назва зборніка! Ці нельга выяўляць думкі, пачуцці прасцей, па-народнаму вобразна? Як пісалі Купала, Колас, Багдановіч, як зараз пішуць Танк, Панчанка, Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч. Ёсць жа у каго вучыцца! Вось першы верш гэтай падборкі— «На тым баку ракі». Міжволі ўзнікае пытанне, ці можна гэту публікацыю называць вершам, аднесці да паэзіі? Вось пачатак:

На тым баку ракі
Стаіць дом.
У ім жыве мой вораг,
Якога я вельмі люблю і
паважаю.

А верш «Дом»? Гэта — няўдалае вершаванае апавяданне, у якім бракуе яснасці думкі.

Крыху лепш успрымаюцца вершы, якія змясціў Сяржук Сокалаў-Воюш у трэцім нумары газеты за г. г. Ёсць верш пра каханне — «Як цябе не хапае мне». Але і тут адчуваецца неакрэсленасць думкі, няма пачуцця.

Неяк на сустрэчы з былымі сваімі выпускнікамі (яны цяпер мастакі) зачытаў ім верш гэтага ж паэта. Вось ён, яго нельга не прывесці цалкам.

Круціцца корба душы,
Вязне ў смузе рэчаіснай:
Тчэцца сусвет.
Зорных шляхоў скавышы
Гэтай стыхіяй дваістай,
Як запавет.
Не! — мудрагелісты код,
Генныя нетры прыроды,
Чуйны закон...
Дзядзька размотвае дрот...
Сунецца цётка гародам...
Гэтак спакон.

Ні я, ні мае былыя вучні, як ні стараліся, не маглі разгадаць гэты рэбус. Як гэта «круціцца корба душы, вязне ў смузе рэчаіснай»? А што гэта за «генныя нетры прыроды»? Дзеля чаго «дзядзька размотвае дрот»? Ці можна гэта назваць моцным узбуджальнікам эмоцый, важкай умовай прыгожага?

З усіх падборак выгадна вылучаюцца вершы Яўгеніі Мальчэўскай («ЛіМ», № 3,). Тут адчуваюцца нацыянальныя традыцыі беларускай літаратуры—любоў да бацькоўскай зямлі, замілаванне роднай прыродай, дзе «травою хмяліць сенакос», боль за лёс Бацькаўшчыны.

Мімаволі думаеш: а дзе ж наша літаратурная крытыка? Былі Рыгор Бярозкін, Варлен Бечык... А зараз? Маўчаць нашы крытыкі, як вады ў рот набраўшы. А трэба ж, мабыць, даваць парады паэтам, асабліва маладым.

Нядрэнна напомніць нашым крытыкам, што моладзь любіць, паважае, высока цэніць сапраўдную паэзію. Аднойчы мне давялося прымаць уступныя экзамены ў Тэатральна-мастацкім інстытуце. У ліку абітурыентаў быў і мой былы вучань Валерый Янушкевіч. Тэма білета, які ён выцягнуў,— «Паэзія Максіма Багдановіча». Хлопец устаў, выпрастаўся.

— Можаце не ўставаць, усе ж адказваюць седзячы,— заўважыў экзаменатар.

— Расказваць пра паэзію Багдановіча, чытаць яго вершы можна толькі стоячы,— адказаў Янушкевіч.

І нам зараз, відаць, трэба дбаць пра тое, каб на старонках аўтарытэтных выданняў змяшчаліся вершы, якія б звінелі, якія трэба чытаць стоячы.

**С. МІТРАХОВІЧ,**
настаўнік.

г. Мінск

## Ад рэдакцыі.

**Мы не ўпершыню друкуем крытычныя спробы пяра нашых чытачоў. Часцей іх водгукі бываюць шчыра захопленымі, ухвальнымі, аднак здараецца — і прыкладам таму вышэй надрукаваны ліст,—што ў адрас творцаў і штотыднёвіка гучыць не менш шчырая крытыка.**

**Не з усім, што выказаў Стэфан Аляксеевіч Мітраховіч, можна пагадзіцца. У прыватнасці, няцяжка аспрэчыць ягонае патрабаванне абавязковай прастаты, яснасці паэтычнай мовы, яго залішне катэгарычны тон. Адгалоскі ў Лету кануўшых падыходаў чуюцца ў спрошчаным разуменні ім традыцый, у трошкі наіўным меркаванні, быццам «тэма любві да бацькаўшчыны, да чалавека працы» сама па сабе можа быць гарантам высокай мастацкасці. На жаль, гэта не так, і прыкладаў доўга шукаць не даводзіцца. Ёсць яны і на старонках «ЛіМа». Вядома, было б ідэальна, каб у газеце творчай інтэлігенцыі друкаваліся толькі ЎЗОРЫ, але як у такім разе быць з паэтычнай моладдзю! Яна ж расце і сталее, дзякуючы публікацыям, у тым ліку і лімаўскім.**

**Пры ўсім пры тым да многіх закідаў і прэтэнзій настаўніка варта прыслухацца. Асабліва гэта тычыцца маладых паэтаў, чые вершы далі падставу для іранічных рэплік і недаўменных пытанняў. Ёсць над чым задумацца і прафесійным крытыкам. Пры большай іх актыўнасці і аператыўнасці — без звыклай закругленасці фраз — чытачам, мабыць, заставалася б толькі ЧЫТАЦЬ. Пакуль жа яны ПІШУЦЬ, то мы і надалей будзем змяшчаць іх допісы.**

жыццё пачуццяў, радасці і шчасця. Ты хоць раз абдымаў жанчыну, цалаваў яе, паміраў ад пяшчоты да яе, благаваў перад яе аголеным целам? Ты будзеш мне ўдзячны...

Гамэр апусціў вочы. О, яна ведала, чым спакушаць яго! А калі і сапраўды няма ў яго дару аэда, калі і сапраўды ён нявольнік сваёй самалюбівай мары? І вось дзеля таго, каб пераканацца ў гэтым, ён цяпер павінен адмовіцца ад той, якая прынясе яму шчасце. І калі гэта зразумее,— будзе ўжо позна.

— Хаця я цябе разумею. Песня — тваё дзіця, і нялёгка выракацца таго, што народжана табою. Каб не такім пакутлівым быў твой выбар, я даю табе магчымасць сустрэцца з гэтай жанчынай. Яе клічуць Іфігенія. Заўтра, вечарам я чакаю твайго адказу.

Багіня адпусціла яго руку, павярнулася і — постаць яе раставарылася ў змроку храма. Асвечаныя ахвярным агнём, моўчкі паглядалі выявы багоў на адзінокага чалавека.

Ужо багіня ночы Нюкта праехала па небе ў калясніцы, запрэжанай чорнымі, як вугаль, канямі. І кінула на зямлю коўдру, схаваўшы ад людскіх вачэй святло. А за ёй марудныя быкі павезлі па небе ў калясніцы Селену. Яе бляклае святло пранікала праз вокны і ў невялічкі пакой Гамэравай хаткі. Ён, абхапіўшы калені, сядзеў на падлозе і думаў. Вось ужо за трыццаць яму, а ў яго ні сям'і, ні прызнання людзей, ні плёну зробленага, ні сяброў, ні драхмы ў кішэні — ён пасмешышча. А тут... Ці варта адмаўляцца ад таго, чым ён можа ўжо заўтра валодаць, дзеля прывідных мар, якія так і не збываюцца? Ці не ахоплівау яго адчай? Было ж такое, калі не хацеў і жыць. Калі думалася пра смерць, як пра збаўленне. Насуперак лёсу прыйшоў ён у гэты свет. Не лёс вызначаў яго жыццё, а выпадак. І гэты свет не для яго. Ён уцякае ад яго. Ён помсціць яму. Так, сваімі песнямі ён помсціць свету, людзям, багам за сваё нікому не патрэбнае жыццё. Ён не пасмешышча — гэта ён смяецца з людской дурноты, сквапнасці і напамінае людзям пра іх мітуслівасць і нікчэмнасць. Але каханне лепш, чым нянавісць.

У начной цішы рыпнулі дзверы. Пачулася лопанне птушыных крылаў. І раптам успыхнула яркае святло. Пасярод пакоя стаяла жанчына дзіўнай прыгажосці. Яе стройную постаць абдымала бялюткая шоўкавая туніка, перахопленая на таліі залататканым пасам. Уражвалі яе блакітныя вочы — сумныя і мудрыя. Ён падняўся з падлогі.

— Я Афіна,— павольна і выразна прамовіла жанчына.

— О, дачка вялікага Зеўса, што прывяло цябе з высокага Алімпа ў маё беднае жытло? — усклікнуў уражаны Гамэр.

— Ну і кім будзеш ты? — спыталася Афіна і сама адказала:—Уладаром прыгожай жанчыны. Прыйдзе час і ты зразумееш, што валодаў прахам і няма чаго табе пакінуць пасля сябе. І адчуеш ты, што не хапае табе галоўнага, таго, што дало табе права мовіць: «Я, Гамэр, валодаю неўміручым». Водамі Сцікса клянуся, што так будзе.

— І што ж...— ён сараміліва прабег позіркам па бедным пакоі, дзе, апроч драўлянага ложка, нічога не стаяла.—Я ведаю,— злосна мовіў ён,— што вось такога, які я перад табою, не будзе болей. Імгненне — вось гэтае таксама — не паўторыцца. Я смяротны і павінен даражыць кожным імгненнем. Я з'явіўся з нічога і ў нішто пайду. І што мае песні? Яны нічога мне не далі. Дык чаму я павінен адмаўляцца ад таго, што хоць неяк ашчаслівіць мяне, суцешыць, абагрэе?

— Адрачыся ад спакус гэтага свету, ад смертаносных яго сіл, далучыся да вечнага і боскага і адолееш цемру гэтага свету. Есць Логас, тое, што робіць вас, людзей — людзьмі. Хіба не жадаеш ты спазнаць хоць адну з таямніц Логаса?

— І які сэнс?

— А навошта сэнс? Яго з сабою не возьмеш. Там твой вопыт непатрэбны. Пазнанне Логаса — ёсць любоў да Багоў, пазнанне Логаса — ёсць існаванне ў сабе — брама ў вечнасць. А пошукі сэнсу пакінь самаўлюбёным філосафам, якія пакутуюць ад думкі пра бессэнсоўнасць жыцця. А гэтая жанчына, якой цябе спакушае Афрадыта, не прынясе табе шчасця. Яна надакучыць, і ўсё тваё каханне стане адной мэтай — даказаць, што ты сапраўдны мужчына. І, целуючы сваю каханую, будзеш марыць хутчэй выканаць свой абавязак. Ты будзеш палохацца свайго расчаравання, пакутаваць ад таго, што яна не так шчыра радуецца табе, або глядзіць на другога мужчыну, або без ахвоты адказвае табе на ласкі. Ды чаго я цябе пераконваю? Ніхто не пазбегне свайго лёсу. І ты таксама.— Афіна мовіла гэта і адразу пагасла святло, і цемра запанавала ў пакоі. Ціш парушыла лопанне птушыных крылаў. Гамэр зноў застаўся адзін.

●

Быў дзень 19 арцеміцыя, дзень свята Муз. Па вуліцах горада крочыў богападобны мужчына. І людзі азіраліся на гэтага стройнага і прыгожага чалавека. Гэта быў Гамэр. Доўга ён не мог заснуць пасля адведзін Афіны. І нічога ён не вырашыў. А раніцай, прачнуўшыся, не пазнаў сябе. Доўгія чорныя валасы падалі на яго плечы. Худыя рукі сталі мускулістымі і моцнымі, як у барацьбіта. Постаць, як у спартанскага воя — вузкая ў таліі і шырокая ў плячах. Зірнуў у амфору з вадою, а на яго глядзіць нехта іншы — малады і прыгожы. Мужная лінія рота. Задумлівасць у вачах. Гамэр усміхнуўся, і адбітак у вадзе блісную белымі зубамі. Афрадыта падарыла яму новы воблік. І, зачараваны, глядзеў ён на свой адбітак, як некалі няшчасны Нарцыс. І доўга ён аглядаў сваё новае цела, згінаў рукі, мацаў цвёрдыя мускулы, любаваўся нагамі. Ён любіў сябе ў новым обліку. О, цяпер ён падобны на бога! І прадчуваў захопленыя позіркі людзей на сабе. Гэта будзе яго помста людзям за свае прыніжэнні. Некалі яны смяяліся з яго нязграбнасці. Ну дык вось, хай цяпер зразумеюць, што ў параўнанні з ім яны самі — убоства і вартыя насмешак. Відаць, ён валодае дарам аэда, калі Афрадыта пераварыла яго вось у такога прыгажуна, толькі б ён выракся свайго дару. Калі багі ведаюць кошт усяму на гэтай зямлі... Яго слова. Яго слова палохаецца багіня. І за яго гатова на дарагую плату... Але ж ён закаханы ў свой новы твар, яму падабаецца яго новае цела і прыемна прымяраць модныя тогі ды тунікі, што прыслала яму Афрадыта. Ніколі не думаў, што валодаць прыгожай рэччу гэтак прыемна. Яна цешыць вока, радуе сэрца, надае ўпэўненасці, прыносіць радасць. І Гамэр радаваўся, як дзіця, і свайму пераўвасабленню, і сваёй прыгажосці, і сустрэчы з Іфігеніяй.

Ён выйшаў з дому апоўдні, калі свята Муз даўно пачалося. Быў спякотны дзень 19 арцеміцыя. Прамяністы Геліас на калясніцы, запрэжанай крылатымі коньмі, ужо ўзнёсся да небнага зеніту. І зіхаценне яго вогненнага вянца біла ў вочы Гамэру. Ён перайшоў на другі бок вуліцы пад цень каштанаў. Рэдкія прахожыя паглядалі на невядомага ім богападобнага мужчыну. Як прыемна было лавіць іх позіркі, поўныя захаплення і зачаравання. І ніхто з іх не здагадаецца, што гэта той Гамэр, з якога яны смяяліся. І калі спаліць кіфару,— ён застанецца такім, і тады Іфігенія пакахае яго. Значыць, нішто не зменіцца ў гэтым свеце. І па-ранейшаму не будуць дзеці шанаваць бацькоў, а бацькі, як некалі ад яго самога, будуць адракацца ад дзяцей, не будзе кахання паміж людзьмі, і сябар будзе здраджваць сябру, госцю ніхто не абрадуецца, і забудуцца людзі пра дабрыню, і няшчасны будзе выклікаць у іх смех, і ўсё болей і болей зла прыбавіцца ў гэтым свеце. А ён жа сваімі песнямі мог хоць неяк бараніць людзей ад зла. Хто скажа чалавеку, што ён чалавек? Гамэр? Кожны асуджаны адказваць за ўсё, што робіцца на свеце, а, значыць, не свабодны ў сваіх жаданнях. Людзі забыліся пра гэта, людзі спадзяюцца на багоў і забыліся, што жывуць сярод людзей.

Усё было прадвызначана. Ад свайго лёсу ён не ўцёк. Насустрач ішла Іфігенія. Як забілася трывожна сэрца? Ніколі так не хваляваўся. Да яго ішла яна. Прыгожая і чароўная. Яе чорныя валасы, яе ваблівыя вочы, яе прыгожы твар, яе танклявыя рукі, гэтыя выступы грудзей з-пад тунікі — усё гэта можа належаць яму. І яна таксама адорыць яго пяшчотаю і каханнем. І хіба гэта не шчасце? І хіба гэта не варта яго ахвяры? Яна параўнялася з Гамэрам. Зірнула на яго. І ў вачах яе, як і тады, убачыў ён спалохае захапленне, трапяткую боязь і дзіцячую цікаўнасць.

— Мір табе, Іфігенія,— мовіў ён, з асалодаю вымаўляючы яе імя. І голас яго не задрыжэў, не сарваўся. І не засаромеўся ён.

Чырванню ўспыхнулі яе шчокі. Дзяўчына спынілася, хуценькім позіркам зірнула ў адзін бок, у другі. Апроч іх дваіх, на вуліцы нікога не было.

— Ты ведаеш мяне? — разгублена прамовіла Іфігенія.

— Вось ведаю.

— А хто ты такі? — яна чакальна зірнула на яго.

Усё атрымалася само сабою. Гэта падман, гэта гульня з лёсам. Само сабою нарадзілася ў галаве імя, і Гамэр назваў яго.

— Неокл, я прыехаў сюды з Афін. Я бачыў цябе ўчора і ты спадабалася мне.

— Я многім падабаюся,— з пахвальбою адказала дзяўчына і па-дзіцячы нявінна заміргала веямі.

— Ты спяшаешся? — любуючыся кожнай рыскай яе твару, спытаўся Гамэр.

— А сумна на гэтым свеце,— расчаравана прамовіла Іфігенія, скрывіўшы вусны.— Іду дадому.

— Мне можна праводзіць цябе?

Хаця яна і не згадзілася, але і не мовіла: «Не».

Яны ішлі па апусцелай вуліцы. Што ж, Афрадыта выканала сваё абяцанне. Вось перад ім тая, якую ён пакахаў. І як яна паглядае на яго. Закахалася. А таго ранейшага Гамэра яна не кахала. І толькі вось за гэтую маску, якую дала яму Афрадыта, яна гатова ахвяраваць сабою. За маску. Не за душу, не за сэрца, не за розум, а за маску...

— Адкуль ты ведаеш маё імя? — парушыла іх маўчанне Іфігенія.

— Мой знаёмы паведаміў, Гамэр,— ён назваў сваё імя не наўмысна, проста яно першым прыйшло на розум.

Іфігенія засмяялася, і праз смех выпаліла:

— Гэты дурненькі?

І яна... яна смяялася з яго! І яна такая ж, як усе. Як ён памыліўся!..

— Чаму... ча-му... ты так кажаш? — Словы, як стогн, зляцелі з яго вуснаў.

Яна, не задумваючыся, са смехам адказала:

— А яго дурненькім усе лічаць.

Дурненькі! Вось табе прысуд, Гамэр!

А, зрэшты, чаго ён чакаў? Натоўп і творца. І няма творцу месца ў натоўпе. Ён адзінокі. Дзякуй багам, што яго яшчэ не закідалі камянямі.

— Ён выбраннік Каліопы.

І зноў Іфігенія прыгожа і гучна засмяялася, даводзячы яго гэтым сваім смехам да адчаю.

— Падумаеш, паэзія...

— Ну як жа не любіць яе? — вырвалася ў яго.

— А гэтым пытаннем хай твой Гамэр мучаецца. Лепш бы ажаніўся. Ды толькі — хто за яго пойдзе?

Кожнае яе слова крала ў яго той вобраз, які ён прыдумаў для сябе. З кожным словам губляў ён чароўную, узнёслую і паэтычную Іфігенію.

— Я думаў, што ты зусім не такая,— з сумам і расчараваннем мовіў ён.

Яна спынілася. Веі яе чорных вачэй задрыжэлі.

— Якая ёсць, такая і ёсць,—капрызна адрэзала дзяўчына і, ускінуўшы галаву, вытанчаным рухам правяла рукой па сваіх валасах.

Ну і што — ён кахае яе і такую. Ён прымае яе такой. Яна дзіця гэтага свету з усімі яго прымхамі і нечаканасцямі. А якой ёй быць?

— Я кахаю цябе, Іфігенія!

І нічога не адбылося незвычайнага. Словы гэтыя былі вымаўлены — і дзяўчына, нібы неадноўчы чула гэтыя словы, спакойна адказала:

— Будзеш мяне забаўляць, катаць на караблі, дарыць надарункі — буду цябе любіць.— Памаўчала і нечакана зусім другім голасам — сумным і даверлівым — мовіла: — Не думай, што ў мяне няма душы і сэрца. Я таксама кахала і пакутавала. І па-ранейшаму кахаю, хоць і безнадзейна. Я мару, каб хто мяне пакахаў і звёз з гэтага горада, каб забыцца пра мінулае.

Яна спынілася і паглядзела на яго. І ў яе вачах — надзея.

— А калі б гэты чалавек быў Гамэр?

Горкая ўсмешка кранула яе вусны.

— Ды што ты ўсё пра яго? Ён сваёй паэзіяй шчаслівы! Не праводзь мяне далей, не трэба.

І яна пайшла далей адна. Вось і ўсё. Імгненне — пачатак і канец іх сустрэчы. З супярэчнасцяў гэтага свету, з яго, Гамэравых, мар з'явілася гэтая дзяўчына і пайшла ў супярэчлівы свет, забраўшы з сабою яго мары. І выбірай.

— І што ты выбраў, Гамэр?

Дома яго чакала Афіна, велічная і дзіўная ў сваёй боскай прыгажосці. Але куды ёй да Іфігеніі. Прыгажосць яе не жывая. Яна палохае сваёй халоднасцю і правільнасцю. Прыгажосць мармуровай выявы, а не жывога чалавека.

— І што ты выбраў, Гамэр?

— Не кажы мне пра славу, пра бессмяротнасць, пра служэнне людзям. Чаго гэта варта, калі я дзеля гэтага адмоўлюся дапамагчы чалавеку, якому патрэбна мая дапамога? Хоць аднаму, аднаму чалавеку зрабіць добрае.

— І тысячы асудзіць на пакуты.

— А што мне рабіць, вялікая дачка Зеўса? — у адчаі ўсклікнуў Гамэр.

— Успомні Праметэя, які прынёс вам агонь. А ты нясеш людзям слова, у якім вечны Логас,— спакойна прамовіла багіня.

— Я кахаю яе. І без яе я нічога не здолею зрабіць,— ён уткнуўся тварам у далоні, нібы хацеў схавацца ад гэтага жорсткага свету з яго немінучым выбарам.

— Я вырву з тваёй сэрца стралу Эраса. Пакуль рана не загоіцца — яна баліць. Але боль і адчай адкрываюць глыбіню мудрасці. У адзіноце прыйдзе да цябе мудрасць. І ніводзін жаночы погляд не параніць тваё сэрца. І забудзеш ты Іфігенію. І застанецца ў цябе неўміручае слова, тваё слова.

Ён маўчаў доўга, і Афіна цярпліва чакала яго адказу; пасля падняў твар ад далоняў.

— Ніхто не пазбегне свайго лёсу,— ціха прамовіў Гамэр.

І толькі ён змоўк, як яркае святло асляпіла яго. Ён заплюшчыў вочы. А калі расплюшчыў — начная цемра сустрэла яго.

— Што гэта? Я нічога не бачу,— ён выцягнуў руку і стаў мацаць перад сабою.— Я нічога не бачу. Навошта гэта? Не хачу!

— Памятай, Гамэр, пра тых, дзеля каго ты пасланы багамі. Памятай, што словам сваім ты выхаваеш Эладу.

І багіня змоўкла. Ён не бачыў, як ператварылася яна ў саву,— толькі пачуў, як залопалі птушыныя крылы і як гук іх аціх у далечыні. Гамэр застаўся адзін.

●

Людзі нат з птушынай вышыні, здаваліся, як заўсёды, мітуслівымі і неразумнымі. Каля храма Апалона вадзілі яны карагоды. А хор спевакоў славіў музу Каліопу, якая натхняе паэтаў і аэдаў. Якія наіўныя людзі! Ды і што ім ведаць пра багоў? Тое, што самі багі пажадаюць. Яна пажадала адпомсціць ганарлівай Афрадыце, якой Парыс аддаў залаты яблык, як самай «чароўнай». Цяпер даведаюцца і людзі пра гэтую «чароўную», пра яе блуд з грубым Арэсам, пра подзвігі грэкаў, якіх падтрымлівалі яна, Афіна, у вайне з Афрадытавымі ўлюбёнцамі траянцамі. Пра ўсё гэта і мовіць невідушчы Гамэр.

# Угледаючыся ў класіку

## «Тоска» ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР

Непераходная каштоўнасць многіх класічных твораў не толькі вызначаецца вартасцямі музыкі і драматургіі, папулярнасцю ў публікі, але і правяраецца шматграннасцю іх тлумачэнняў. «Тоска» Дж. Пучыні, бясспрэчна, — адзін з шэдэўраў італьянскага музычнага тэатра, з ліку так званых рэпертуарных назваў. Сустрэча з гэтым цудоўным творам радуе і гледачоў, і выканаўцаў. Але жывы тэатр заўсёды імкнецца не да ілюстравання класічнага сюжэта, а да стварэння на сцэне мастацкай рэальнасці, непаўторнай у сваіх фарбах, інтанацыях і тэмпераменце, у якіх праяўляе сябе наша сучаснае светаразуменне. Прэм'ера «Тоскі» на мінскай сцэне тое пацвярджае.

На першы погляд «Тоска» — опера, якая не надта паддаецца тлумачэнням, і спектакль выглядае досыць традыцыйным. У ім пануюць музыка і спевы, прыгожае мастацкае афармленне скіравана на стварэнне гранд-стылю. Выкананне па-італьянску, на мове арыгінала, надае спектаклю рысы арыстакратызму. Безумоўна, гістарычная канва гісторыі кахання і смерці Флорыі Тоскі давала ў наш палітызаваны час захапляльную магчымасць экстравагантных вырашэнняў і шчырай ігры на аналогіях паміж падзеямі ў Італіі 1800 года і сталінскай крывавай дыктатуры. Але рэжысёр спектакля М. Ізворска-Елізар'ева пазбегла простай палітызацыі, прапаноўваючы гледачу ўважліва ўгледзецца ў сцэну, яе фарбы, у сцэнічныя характары і вобразы.

Рэжысёр засяроджвае сваю ўвагу на псіхалогіі і ўчынках герояў оперы, выяўляючы асноўную тэму спектакля — канфлікт паміж уладай дыктатуры і свабодным волевыяўленнем мастака. Пастаноўка вяртае нас да ўспамінаў пра недалёкія часы, калі чалавек выпадкова трапляў у хітраспляценні палітычнай інтрыгі і самай высокай цаной, жыццём, аплачваў свой чалавечы выбар. Дыктатар Скарпіа, шэф рымскай паліцыі, яўна нагадвае ў спектаклі тых заўзятых следчых і суддзяў, хто ў 30—40-я гады вырашаў лёс людзей і нашай краіны, спалучаючы дэмагагічную перакананасць у «ідэях» з бесчалавечнымі метадамі падаўлення, калі шантаж, падлог, пыткі, прыніжэнні і расстрэлы зрабіліся будзённай і звычайнай справай. Рэжысёр выпукла і падрабязна, у дэталях, распрацоўвае сферу дыктатуры. Скарпіа заўсёды з'яўляецца ў акружэнні «прагных да справы» шпікаў і катаў, у кожным руху якіх, нягледзячы на мундзіры і фракі, высвечвае іх біяграфія былых крымінальнікаў. Яны, накіраваныя вопешчанай рукой Скарпіа, з азартам паляўнічых-прафесіяналаў гоняць ахвяру і, загнаўшы яе ў пастку, з садысцкім задавальненнем катуюць і назіраюць за пакутамі невінаватых. Яны, Спалеці і Ск'яроне, аддана служаць, ловячы кожны позірк свайго гаспадара — Скарпіа.

І ў гэтую пякельную машыну знішчэння трапляюць Тоска і Каварадосі, якія па волі лёсу зрабіліся ўдзельнікамі ўцёкаў палітычнага зняволенага Анджэлоці. Спачатку ім вядомыя толькі каханне і захапленне творчасцю, шчасце і слава. Са з'яўленнем Скарпіа ў іх жыццё ўрываецца няўмольная жорсткая сіла, якая ўнушае жудасны страх, але ўсясільнаму дыктатару не ўдаецца зламаць ні Марыа, ні Тоску. Кожны з іх робіць свой свабодны выбар. І М. Ізворска-Елізар'ева дакладна вядзе выканаўцаў паўз усе падводныя рыфы гэтых роляў, заклікаючы акцёраў пачуцці і рэакцыі чэрпаць у музыцы Пучыні і накіроўваючы іх да дыялога з аркестрам. Разам з дырыжорам Ю. Кочневым рэжысёр стварае шчыльнае музычна-драматычнае дзеянне. І ў гэтым сэнсе самае моцнае ўражанне дае II акт пастаноўкі, у якім гранічна агаляецца нерв драмы, і ў выніку добра наладжаная машына падаўлення ўпершыню дае збой, сутыкнуўшыся з непадуладным ёй свабодным волевыяўленнем творчай асобы.

**У спектаклі, акрамя ўважліва прасочаных псіхалагічных ліній, цікава і нечакана распрацавана драматургія вобразных радоў, калі, трымаючыся рэжысёрскай задумы, мастак В. Окунеў не проста прыгожа абстаўляе месца дзеяння, але выстройвае такія жывапісна-пластычныя ракурсы Рыма, якія ствараюць у пастаноўцы філасофскую глыбіню. З гэтых кампазіцый на сцэне ўзнікае вобраз Вялікага Рыма як сімвала вечнай прыгажосці і велічы чалавечага духу і адначасова як сімвала ўяўнай магутнасці імперый, абавязкова асуджаных на гібель. Так нечакана сярод прыгажосці звяртаюць на сябе ўвагу палавінкі магутных калон, быццам рэшткі калосаў, якія рухнулі і, нарэшце, велічная цяжкая архітэктура ў спектаклі відавочна перагукаецца са сталінскім ампірам.**

**Рэжысёр і мастак вельмі дакладна і вобразна размяркоўваюць мастацкую прастору, у якой дзейнічаюць Марыа і Тоска, з аднаго боку, і Скарпіа, з другога. Сабор у І дзеі — гэта прастора, дзе творыць мастак, і кожная дэталь у ёй нясе на сабе пячатку мастацтва. Яе аб'ём велізарны і цудоўны, калоны ўпрыгожаны зіхоткімі залацістага колеру анёламі, на сцяне вялікая фрэска з выявай Мадонны, якую малюе Марыа. У II дзеі мы амаль не бачым анёлаў, якія ўзляцелі ў**



Н. ГУБСКАЯ (Тоска) і М. МАІСЕЕНКА (Скарпіа).

Фота А. ХАРКОВА.

ВЫСТАЎКІ

# ТЭАТР ДЛЯ СЯБЕ

Экспазіцыя штогадовай рэспубліканскай выстаўкі беларускіх сцэнографаў «Вынікі сезона-90» не вялікая па аб'ёме. Вельмі многія мастакі з ліку пастаянных аўтараў не ўзялі ўдзел у ёй: А. Салаўёў, В. Жалонкіна, Я. Волкаў, А. Фаміна і інш. Таму я і не спяшаюся гаварыць пра тое, што цяперашняя выстаўка сапраўды прадстаўляе нам аблічча мінулага тэатральнага сезона. Аднак, пагадзіцеся, што ва ўмовах ледзь не ўсеахопнай абыякавасці да творчасці праца тэатральнага мастака амаль заўсёды — падзвіжніцкая. Прыклад таму — «Вынікі сезона-90», дзе мастакі працягваюць... гуляць у тэатр для сябе... Ці ж не цудоўна гэта?

Экспазіцыю выстаўкі ўпрыгожваюць эскізы берасцейскай мастачкі Таццяны Карвяковай «Паляванне ў Альпах», «Сцэны ля фантана»; яны падаюць не канкрэтнае месца дзеяння, а менавіта эмацыянальна-пачуццёвы вобраз спектакля, выяўлены ў лініях і фарбах. «Паляванне ў Альпах» можна назваць фантазіяй у арэхавым колеры. Экзатычныя чучалы птушак, жывёл, шкура забітага звера, шырмы, мноства плоскасцяў замкнёнай прасторы, вырашаных у манахромным колеры, ствараюць адчуванне таемнасці, фантастычнасці, настройваюць на заманлівыя прыгоды. Калі глядзіш на эскізы Т. Карвяковай, не вельмі хочацца ўяўляць, як гэта выглядае на сцэне, як гэта тэхнічна адчувальна, — настолькі яны закончаны самі па сабе.

Эскізы Віктара Лесіна, галоўнага мастака Брэсцкага драматычнага тэатра, больш сухаватыя, функцыянальныя (здаецца, цікавей разглядаць ягоныя макеты). Гэтым разам ён прапанаваў змрочны, у чорна-шэрым колеры эскіз да «Сясцёр» Л. Разумоўскай: металічны каркас дома амаль без сцен, з правaламі ў лёхі, у сутарэнні, і — схіленая фігура... Эскіз якраз дае занадта яснае ўяўленне аб тым, як гэта выглядае на сцэне. Эскіз да «Лаліты» Э. Олбі, думаецца, менш удалая работа мастака, бо рэчавы свет Лаліты — ружовая лялька, ложак, парцьеры, фікус на атрутна-зялёным фоне — сведчаць толькі пра пошласць абстаноўкі, але ж ці не замала гэтага для вобраза ўнутранага свету гэтай маналагічнай п'есы?

Стабільнасць і прафесіяналізм Т. Карвяковай і В. Лесіна заслугоўваюць глыбокай павагі, тым больш, што тэатр з Брэста перажывае не лепшую часіну: колькі ўжо рамантуецца сцэна, колькі ўжо змянілася рэжысёраў...

Сёлета, пасля доўгага перапынку мы ўбачылі, нарэшце, работу аднаго з вядучых мастакоў рэспублікі Марка Волахава з Магілёва,— эскіз да п'есы Ж. Ануя «Генералы ў спадніцах». Асноўны канструктыўны элемент эскіза — чырвоная арэна, што ўразаецца ў глядзельную залу і чырвоны ходнік,які ідзе ў глыбіню сцэны.

Менш цікава, чым звычайна, прадстаўлены на выстаўцы Дзмітрый Мохаў, галоўны мастак Тэатра-студыі кінаакцёра. Тое, што ён выканаў для тэатра-студыі кінаакцёра. Тое, што ён выканаў для тэатраў Баку Гур'ева, вар'іруе нейкія сцэнічныя знаходкі ягоных папярэдніх спектакляў. Больш за тое, у яго вырашэнні «Утаймаванне свавольніцы» за пухам, паўкружжам арак, ложкаў, мармуровых купальняў з спакуслівымі малюнкамі, за дамінантай чырвонага колеру ўзнікае не вобраз спектакля, не шэкспіраўскі свет, а задушная мяшчанская раскоша. У эскізах да спектакля «Publіцы глядзець забараняецца» гэткі ж «оперны» стыль: авальныя канапы, круглыя крэслы, авальныя паўкружжы вокнаў і фіранак... Прыкра і тое, што майстэрства Д. Мохава застаецца незапатрабаваным у рэспубліцы.

Гэтага не скажаш сёння пра творчасць галоўнага мастака тэатра музычнай камедыі Уладзіміра Жданава, праўда, на выстаўцы амаль няма ягоных работ, прызначаных для музычнай сцэны. Затое ёсць шэраг цікавых ідэй для сцэны драматычнай. Гэта, перш за ўсё, макет да спектакля купалаўскага тэатра «Даходнае месца». Вобраз спектакля і яго тэхнічная сэрцавіна — катрынка. Свет герояў Астроўскага ўбачаны і пададзены праз гэты атрыбут мінулага жыцця. Шырокая вінтавая лесвіца на коле (як на восі) трымаецца на павялічаным вінце музычнай скрынкі. Катрынка вянчае і ўсю канструкцыю, падставай якой — запылены жостаўскі паднос (сцэнічнае кола). Яго павароты даюць мноства варыянтаў сцэнічных пляцовак, двух'ярусных і трох'ярусных. Тут ёсць усё — і вобраз спектакля, і яго драматургія, і канструктыўны прыём. У макеце таго самага У. Жданава да «Чыста англійскай камедыі» (Магілёў) хутчэй пазначана месца спектакля. Эскізы У. Жданава менш цікавыя. Гэтыя ўжытковыя накіды не для выстаўкі, хоць сярод іх ёсць эскіз да прыкметнага спектакля купалаўцаў «Эмігранты» С. Мрожака. Задума мастака — белая зіхотная вертыкаль стаўбура ліфтавой шахты на чорным фоне агаленай сцэны,— гэткая магчымасць духоўнага або фізічнага прарыву ў іншае жыццё для герояў Мрожакавай п'есы...

Некалькі апошніх работ зроблены мастаком з рэжысёрам М. Пінігіным. Магчыма, гэта супрацоўніцтва стане яшчэ адным значным дуэтам у беларускім тэатры. Такіх мы ведаем сёння нямала: А. Фаміна— А. Ляляўскі, В. Рачкоўскі — А. Жугжда, А. Салаўёў — В. Мазынскі, Ю. Тур — Б. Луцэнка, Д. Мохаў — Б. Луцэнка, Б. Герлаван — В. Раеўскі, Я. Волкаў — Я. Натапаў, З. Марголін — В. Катавіцкі...

Зіновію Марголіну, які працуе цікава і па-сучаснаму, не дужа шанцуе з рэалізацыяй сцэнічных задум. Яго цікавейшыя сцэнаграфічныя ідэі, якія мы бачылі ў эскізах і макетах на мінулых выстаўках: «Насарог» Э. Іянеска, «Тры дзяўчыны ў блакітным» Л. Петрушэўскай, «Лаліта» Э. Олбі, «Фрэкен Юлія» А. Стрындберга так і засталіся неажыццёўленымі. Гэтым разам мастак прапанаваў іранічныя казачна-лубочныя эскізы для музычнага спектакля «Калі заспявае певень». Эскізы Марголіна — сярод тых нешматлікіх на выстаўцы, якія прапаноўваюць менавіта вобразнае вырашэнне спектакля, а не проста абазначэнне месца дзеяння ці канструктыўны прыём. У дадзеным выпадку прапанаваны сцэнічны вобраз па прыродзе сваёй гульнёвы. У іх ёсць стылізацыя лубка: вялікае дрэва са ствалом з дошак займае асаблівы цэнтр сцэны і ўбірае ў сябе цэлае жыццё. У яго кроне сярод яблыкаў і лістоты бачны дахі вёсачкі, цэркаўкі, паласаты кот і мужык з віяланчэллю. Суадносіны памераў прадметаў і людзей знарок ссунутыя. У другім эскізе дрэва нібыта раз'язджаецца ў бакі і ўверх, набліжаючы да нас персанажаў і прадметы, якія яго насяляюць. Фігуркі лю-



Т. КАРВЯКОВА. «Сцэны ля фантана» С. ЗЛОТНІКАВА. Эскіз.

**вышыню, калоны ўтвараюць пампезны і душны кабінет Скарпіа ў палацы Франезе. Тут няма месца мастацтву, светлавы акцэнт зроблены на «падэшвах» калон, і ўзнікае нейкая прыземленасць. Гэта «ніз» жыцця. Анёлы, як дамінуючы вобраз у мастацкім вырашэнні, акампаніруюць дзеянню, даючы сваю вышэйшую ацэнку ў кульмінацыйных момантах. Адзіны раз спусціцца «з нябёсаў» анёл у кабінеце Скарпіа, «пачуўшы» малітву Тоскі. А ў апошнім акце, адгукаючыся на гібель герояў, анёлы рухнуць з чорных крапасных сцен, за якімі ўспыхне світанак.**

Музычнае выкананне «Тоскі» адзначана сталасцю дырыжорскай інтэрпрэтацыі, сур'ёзнай работай са спевакамі і яркай эмацыянальнасцю. Праўда, Ю. Кочнева (галоўны дырыжор Саратаўскай оперы) можна было б папракнуць часам у залішне адкрытай страснасці, але гэта з пункту гледжання нейкага ідэальнага прачытання партытуры. У гэтай пастаноўцы, не арыентаванай на любаванне рамантычным сюжэтам, такі насычаны музычны драматызм дакладна спалучаецца са змрочна-прыгожым мастацкім вырашэннем і акцэнтаваным трагізмам канфлікту, паказанага рэжысёрам. Спектакль уражвае аднадушнасцю пастаноўшчыкаў у іх сённяшнім адчуванні праблематыкі оперы Пучыні.

Лёс любой пастаноўкі «Тоскі» надзвычай залежыць ад акцёраў, ад іх уключанасці ў задуму і шчырасці ў сцэнічным жыцці свайго вобраза. Фармальнае, хадульнае, фальшывае ператварае гэтую псіхалагічную драму ў дэкаратыўнае дзейства. І перш за ўсё гэта тычыцца цэнтральнага вобраза Тоскі. Артыстка Н. Губская ў партыі Тоскі прываблівае музычным увасабленнем, яе прыгожы голас зачароўвае тонкай градацыяй гукаў, у якой спявачка імкнецца адлюстраваць усю гаму пачуццяў гераіні. Сапраўды вышэйшай кропкай у яе выкананні робіцца знакамітая малітва. Тоска-Губская паважна стрыманая і ўнутрана засяроджаная, яна «запальваецца» ў кульмінацыйныя моманты. Тоска ў выкананні І. Журко больш імпульсіўная і вуглаватая, актрыса літаральна кідаецца ў кожную сцэнічную сітуацыю, раскрываючы нервовы тэмперамент і сляпую даверлівасць Флорыі. Вакальны малюнак маладой спявачкі рэзкі, і трэба адзначыць неабходнасць для яе далейшага пошуку больш разнастайнай інтанацыі. Пакуль гэта графіка, а ў Пучыні важны насычаны адценнямі гукапіс.

Пераканаўчыя абодва выканаўцы партыі Скарпіа — М. Маісеенка і Ю. Бастрыкаў. Абодва манументальна злавесныя, асабліва ў падзячнай малітве фінала І акта. Скарпіа-Бастрыкаў падкрэслена фанабэрысты і шчыра лічыць сябе арыстакратам, нягледзячы на ўсе подлыя думкі і дзеянні. Відаць, бліжэй да задумы пастаноўкі Скарпіа-Маісеенка. Так, і ён знешне элегантны і пачцівы, а на самай справе жорсткі і ўладарны. Але ў кожным яго ным жэсце і фразе свіціцца гэткі напышлівы цынізм, што, назіраючы за ягонай гульнёй з ахвярай, робіцца жудасна і агідна. Гэты Скарпіа не сароміцца свайго нязнатнага паходжання і не хавае сваіх жаданняў ды прэтэнзій. Усё роўна сёння правіць светам ён, і так будзе заўтра, так будзе заўсёды.

Пераканальнае вырашэнне, калі побач з Тоскай-Губскай з'яўляецца Каварадосі-Экнадзіёсаў, у выкананні якога Марыа — сталы майстар і мужны чалавек, які свядома выбірае шлях пратэсту дзеля захавання ў сабе чалавечага. Марыа А. Тузлукова іншы, ягоны герой яшчэ пачуццёва-непасрэдна ўспрымае свет, мастацтва, каханне. Сустрэча са Скарпіа для яго страшнае выпрабаванне, і ён адчайна супраціўляецца. Але, на жаль, абодвум спевакам нестае вакальнай свабоды.

Аддамо належнае выканаўцам другіх партый, ад якіх многае залежыць у спектаклі. Артысты А. Гардынец (Анджэлоці, Турэмшчык) і М. Качаноўскі (Ск'яроне) дакладна, пластычна і вакальна, абмалёўваюць характары персанажаў, ідучы ўважліва за рэжысёрскай думкай. Добра паказала сябе ў спектаклі дзіцячая харавая студыя.

**Асобна варта пагаварыць наконт выканання на італьянскай мове. Глядач і практыкі тэатра маюць права зрабіць тут папрок. Аднак даўно вядома, што ў оперным мастацтве інтанацыя, сам спосаб гуказдабывання цесна звязаны са словам, і найбольш поўна адчуць і перадаць кампазітарскі стыль можна, толькі выконваючы тэкст у арыгінале. Сёння вельмі востра стаіць праблема перакладаў, нашы пераклады, чаго грэх утойваць, часта далёкія ад дасканаласці, а то і безнадзейна састарэлі. На Захадзе гэтаму аспекту пастаноўкі надаецца вялікае значэнне. Выбар паміж арыгінальным тэкстам і перакладам на нацыянальную мову з'яўляецца для тэатра і пастаноўшчыкаў мастацкай пазіцыяй, а не дзяржаўнай дырэктывай. Вельмі распаўсюджана практыка стварэння новага перакладу, зыходзячы з канцэпцыі спектакля. З другога боку, уважліва ставяцца да мадэрнізацыі сучаснай мовы, і з перакладаў выкідаюцца лінгвістычныя архаізмы. Выкананне на мове арыгінала ставіць перад акцёрамі новыя задачы і з'яўляецца добрай прафесійнай школай. Таму адносіны да гэтай праблемы даўно сталі фактам, які характарызуе разуменне прафесіі, творчасці і культуры ў цэлым. Невыпадкова сёння многія тэатры краіны стараюцца выконваць італьянскую класіку на мове арыгінала, і прыкладаў таму нямала: «Тоска» ў Кішынёве, «Мадам Батэрфляй» у Пермі. «Пірат» у Маскве, «Атэла» ў Ленінградзе і «Трубадур» у Новасібірску.**

Прайшлі першыя прэм'ерныя спектаклі, якія атрымалі заслужаную ўхвалу ў публікі. Праца над операй Пучыні сталася добрай школай для многіх маладых спевакоў, прынесла поспех вядучым акцёрам тэатра. Але галоўнае, у тэатры і ў горадзе нарадзіўся сур'ёзны сучасны спектакль, які ўпісаў яшчэ адну дастойную старонку ў сцэнічную гісторыю драмы пра Флорыю Тоску.

**Ірына ЧАРНАМУРАВА,**
**крытык.**

г. Масква.

**дзей і жывёл стылізаваны ў духу традыцыйнай глінянай цацкі: карова ў квяцістых яблыках, паліцэйскі, што скача на свінні. Але традыцыйныя сюжэты і выявы прадметаў крыху зрушаны, трансфармаваны: не конь, а менавіта карова, не проста мужык, а паліцэйскі. І тут сама — лірычныя шагалаўскія ўкрапленні, але трансфармаваныя па асацыяцыі: мужык з віяланчэллю з'яўляецца то на дрэве, то на паліцэйскай будцы...**

**У апошні час вельмі сур'ёзна і моцна паказваецца на выстаўках Валерый Рачкоўскі, які набыў, нарэшце, сваю сцэну — узначаліў новы тэатр лялек у Маладзечне. Яго «Дракон» на магілёўскай лялечнай сцэне (мы бачылі яго макет і эскіз) мінулага года прывабіў увагу спецыялістаў неардынарнасцю і неадназначнасцю вырашэння. На цяперашнюю выстаўку ён прадставіў маляўнічы, чысты і ясны па стылі эскіз дэкарацый і лялек да аднаго з лепшых спектакляў года «Рыгорка, ясная зорка» (рэжысёр А. Жугжда, Магілёўскі тэатр лялек). Казка А. Вярцінскага разыгрываецца ў прыёмах батлейкі і каляднага прадстаўлення. Таму адзіная дэкарацыйная ўстаноўка, выяўленая на эскізе — нібы плыве ў белых аблоках батлейка з залатымі купалкамі і падсвечнікамі, з круглай цвердззю неба над ёй і зоркамі на залатой восі. Яна выклікае адчуванне ўстойлівасці, замкнёнага космасу і жыццярадаснасці народнага светаўспрымання.**

**З дзіцячых спектакляў на выстаўцы можна было сустрэць толькі адну работу — макет Ларысы Герлаван да спектакля ТЮГа «Жылі-былі дзве ліскі», дзе казачны лес зроблены мастачкай не ілюзійным, не з імітацыяй дрэў, а ўмоўнымі тэатральнымі сродкамі: з дапамогай абцягнутых ніцямі круглых шчытоў з мухаморамі і воўчымі ягадамі, з дапамогай рознакаляровых сетак.**



В. ЛЕСІН. «Генералы ў спадніцах» Ж. АНУЯ. Макет.

**Уладзімір Матросаў, рэжысёр і мастак Тэатра гістарычнай драмы і камедыі, які працуе ў рэзкай экспрэсіўнай манеры як мастак-публіцыст прадставіў эскізы да спектакляў: «Следчая справа Вашчылы», «Купала і Чарнобыль», «Марк Шагал». З іх найбольш цікавым падаўся эскіз да п'есы І. Чыгрынава «Следчая справа Вашчылы» — сваімі дысанансным і супастаўленнямі чорнай гарызанталі якая адыходзіць у тунель і чырвонай плыні вертыкалі, аголенага жаночага цела і няўтульнай варожасці прасторы, што робіць чалавечыя фігуры і цені чыстымі сімваламі.**

**Экспазіцыю дапаўняюць работы мастакоў, якія нядаўна пачалі ўдзельнічаць у сцэнаграфічных выстаўках. Гэта макет Алега Рыбакова да «Сясцёр» Л. Разумоўскай, які па фактуры (зрэб'е, бярвенне, бэлькі, драўляныя лыжкі), па вырашэнню прасторы ўнутраны інтэр'ер дома займае ўсю сцэну) стылістычна хутчэй падышоў бы да інсцэніровак раманаў Ф. Абрамава, чым да п'есы Л. Разумоўскай.**

**Секцыя сцэнаграфіі Саюза тэатральных дзеячаў БССР, арганізатар падобных выставак, перажывае сёння цяжкія часы. Даўно вядома, што работы мастакоў не захоўваюцца ні тэатрамі, ні музеямі, не купляюцца дзяржаўнымі арганізацыямі і прыватнымі асобамі, а выдаць каталогі — неймаверна цяжка. Выстаўкі праходзяць у духоўным вакууме. У іх амаль няма гледачоў. Адсутнасць культурнай ауры, якая стварыла б духоўную і практычную зацікаўленасць у лёсе сцэнаграфіі ў рэспубліцы, ужо стала нормай. Ох, як яшчэ нам далёка да Адраджэння не на словах, не ў газетных заклінаннях, а на справе. Больш за тое. Летам 1990 беларуская сцэнаграфія пазбылася несумненнага лідэра Эрнста Гейдэбрэхта, які з'ехаў з Беларусі...**

**Сцэнаграфічныя выстаўкі ў рэспубліцы яшчэ жывуць. І — толькі з патрэбы мастакоў у прафесійным дачыненні. Магчыма, за тэатрам для сябе — будучыня?..**

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ.**

МУЗЫКА

# ТВАРАМ ДА... АВАНГАРДА

**У філармоніі адбыўся канцэрт з твораў беларускага музычнага авангарда, які выклікаў значную слухацкую цікавасць. Вядома, з першага праслухоўвання складанай, часта эксперыментальнай музыкі ўдаецца атрымаць толькі агульнае эмацыянальнае ўражанне і ўспрыняць паасобныя найбольш рэльефныя дэталі музычнага цэлага...**

Досыць незвычайная па задуме «Музыка для габоя і магнітафоннай стужкі» С. Бельцюкова — своеасаблівы дыялог паміж чалавекам і яго «асяроддзем пражывання» — супярэчлівым, кантрастным, часам варожым, але часцей абыякавым. Памкненні ніваліраваць асобу «чытаюцца» ў механічным гучанні музыкі ў запісу, а як альтэрнатыва — натуральнае супраціўленне жывой і думаючай (пакуль яшчэ) матэрыі. Свабодная, унутрана дынамічная лінія мелодыі габоя (гэтую партыю па-майстэрску і натхнёна выканаў Ю. Лікін) увасабляе прыгажосць свету, чыстых шчырых пачуццяў, мудрых жыццёвых ведаў, якія існуюць нават у часы разгубленасці, жорсткасці і разладу.

Арыгінальнасцю і філасофскай глыбінёй, складанасцю музычнай арганізацыі вылучаецца твор А. Соніна «Сімфонія для раяля ў трох санетах», прысвечаны А. Мандэльштаму. Даволі смелы вобразна-стылістычны мантаж твора, заснаваны на зменах настрояў, тэмбравай ігры. Прыгажосць лінеарных пляценняў, лірыка тонкіх пачуццяў, схільнасць да вобразаў ірэальных, прывідных адчуваецца ў гэтым палатне і адначасова — напружана-дынамічная экспрэсія, напамінак пра глыбокія ўзрушэнні. Цікавую інтэрпрэтацыю гэтага твора прапанаваў піяніст А. Крымер, паспяхова вырашыўшы праблему данясення да аўдыторыі складанага аўтарскага тэксту.

У праграме былі таксама творы чыста эксперыментальнага характару. Так, у «Партыце для фартэпіяна» М. Стомы, якую выканаў сам аўтар, на першы план выходзіць спосаб арганізацыі гукавога матэрыялу — як сума пэўных тэхналагічных прыёмаў. Аднак менавіта такога роду музыка пакідае адчуванне пошуку, «авангарднасці», нігілістычнага духу, хоць яна і крыху аднапланавая. Плынь гукавыяўленчага матэрыялу выходзіць на першы план і ў п'есе В. Кузняцова «Гукавое эсэ для аднаго выканаўцы». Яго драматургічны сэнс увасобіўся ў мэтанакіраваным «расшчапленні» акорда-комплексу, які напачатку існуе як адно цэлае. У музыцы пераважае мускульна-маторная энергія, напорысты рух.

У больш традыцыйным стылі напісана «Саната для віяланчэлі і фартэпіяна» В. Войціка, паспяхова выкананая Я. Ксавер'евым і Л. Малышавай і цёпла прынятая публікай. Гэта ўпэўнена зробленая, умелая прафесійная праца. Стыль твора вызначаецца дэмакратычнасцю і нязмушанасцю музычнай плыні, свабоднай у выкарыстанні сродкаў музычнай выразнасці. Што ж датычыць «навацый», дык іх у «Санаце» значна менш.

Сур'ёзная і прафесійная музыка А. Залётнева «Пейзажы» для інструментальнага складу (трамбон — С. Іваноў, валторна — У. Тарашкевіч, ударныя — У. Судноўскі). Слухачы вызначылі яе як трагедыйную, звязаную з падзеямі ў Чарнобылі, чым крыху азадачылі аўтара. І хоць кампазітар не меў на ўвазе канкрэтна гэтыя падзеі, ён пагадзіўся, што музыка мае пячатку рэчаіснасці. Мастак заўсёды думае і адчувае, як і ўсе людзі, толькі яшчэ больш востра і хваравіта ўспрымае штодзённыя працэсы. У нашай рэспубліцы ўсе знаходзяцца пад цяжкім уражаннем трагедыі народа. У музыцы А. Залётнева кантрастна супастаўлены трагічныя вобразы, паказаны разбурэнне і хаос. Твор складаны па змесце і мове, пераважаюць змрочныя таны, напружанасць. Гэтае палатно, на маю думку, магло б быць больш маштабным, разгорнутым, — глабальнасць тэмы дае такую падставу.

Слухацкія сімпатыі заслужыў і твор М. Калешкі «Апокрыф», досыць ярка выкананы паступова набываючай папулярнасць групай «Класік-Авангард» пад кіраўніцтвам У. Байдава. У гэтай музыцы няма расплывістасці і аморфнасці, яна досыць эфектная па форме, змяшчае значныя вобразнасэнсавыя кантрасты.

Такім чынам, эстэтыка і выяўленчыя сродкі авангарда праніклі ў беларускую музыку. Электраакустычныя доследы, спалучэнне механічнага запісу з жывым гучаннем, шматэлементнасць мелодыкі, ужыванне розных стылёвых сфер, — гэта і многае іншае пачало прываблiваць беларускіх кампазітараў, узбагачаючы нацыянальнае мастацтва.

Канцэрт суправаджаўся каментарыямі М. Казініка. Таленавіты папулярызатар, ён на сцэне артыстычны, манера падачы матэрыялу пазбаўлена традыцыйнага прафесійнага суму. Ён валодае багатымі ведамі, якімі свабодна маніпулюе, гаворыць захоплена, хоць часам паддаецца на спакусу перабольшанняў, а калі-нікалі і эпаціравання публікі.

У цэлым канцэрт музыкі беларускага авангарда прайшоў цікава. Слухачы задалі прысутным кампазітарам шматлікія пытанні, часам даволі вострыя і нават крытычныя. Вечар атрымаўся плённым, бо адчуванне неабыякавасці і шчырай цікавасці людзей дае рух творчым думкам, саграе душу і памагае аўтарам верыць у свае сілы.

**Ірына МОРЫХ,**
**музыказнаўца.**

…Прачнуўшыся на досвітку, я глянуў праз акно вагона і знямеў ад захаплення. Проста не верылася вачам: за акном праплывала не казачная, легендарная, навеяная песнямі Пахмутавай, а самая сапраўдная тайга. Аланецкі край… Міжволі ў памяці самі сабой узніклі радкі:

…В златотканные дни сентября
Мнится папертью бора опушка.
Сосны молятся, ладан куря,
Над твоей опустелой избушкой.

Калі дзесьці ў 60-я гады, пераадолеўшы прывітую тагачаснай афіцыйнай літаратурнай крытыкай прадузятасць, я атрымаў асалоду ад непаўторных радкоў Ясеніна, побач з ім узнікла другое імя — Мікалай Клюеў. Апошні ўсё яшчэ быў у апале, і яго загадкавая постаць адразу прыцягнула маю ўвагу. І вось у бібліятэцы мне ўдалося адшукаць пажоўклы ад часу томік яго вершаў «Сосен перезвон». Ад іх павеяла на мяне ўтульнасцю закінутай сярод бясконцых таежных прастораў лесічоўкі, атмасферай штодзённых клопатаў селяніна з яго цікавым унутраным светам. Вершы чыталіся лёгка, мо таму, што ў іх было шмат слоў, вельмі характэрных і для беларускай мовы, накшталт аир, бересклет, бердо, божница, вечеря, гуж, гурт, досюль, духмяный, жалейка, загуменье, зазимки, кладочки, кокора, коляда, кросно, куделя, лесовик, леха, оборы, орать, пасма, поветь, пожня, самогуды, сермяжный, стреха, хмара, цеп, шашель, ярка… Па старажытных беларускіх рукапісах мне, як гісторыку мовы, былі знаёмы і царкоўныя тэрміны тыпу адамант, алевастр, архистратиг, аспид, власяница, епитрахиль, якія прыцягваюцца аўтарам для стварэння так характэрнай для яго вершаў, успрынятай нават Ясеніным, рэлігійнай сімволікі. А яшчэ паэзія Клюева мне была блізкай таму, што ён, як і большасць нашых беларускіх паэтаў, паэт сялянскі. Пры ўсіх адрозненнях эстэтычных прынцыпаў Клюева і Купалы ў тым, што першы з іх, напрыклад, падпісваўся пад сваімі вершамі «Олонецкий крестьянин», а другі смела заяўляў «Я мужык-беларус», ёсць, несумненна, шмат агульнага. Гэтае блізкае маёй душы, што я знайшоў у Клюева — песняра суровай прыроды рускай Поўначы і патрыярхальнага сялянскага побыту, і выклікала ў мяне жаданне перакласці некалькі яго вершаў на беларускую мову.

Уладзімір СВЯЖЫНСКІ.

## Мікалай КЛЮЕЎ

●

Залатым вераснёвым дзяньком
Бору край цвінтаром выглядае.
Сосны моляцца, кадзяць дымком
Над хацінкай тваёй, што пустая.

Вецер-стражнік сляды даўніны
Шапатлівым лісцём замятае.
Расхінуўшы убранне сасны,
Прамільгні за бярозавым гаем!

Я пазнаю хусцінкі кайму,
Галасок твой і поступ крылаты…
Сосны шэпчуць пра змрок і турму,
Пра паблісканне зорак з-за кратаў.

Пра бразготку ў дарозе цяжкой,
Пра сівыя буракія далі…
Мір вам, сосны, бо клопат вы мой,
Як матуля мая, разгадалі!

Памінальным асеннім дзяньком
Вы пра тайну у сына спытайце
І аб той, што спляціла жыццём
За любоў, зямлі й небу згадайце!

●

Ахрышчуся іконкаю магільнай,
Накармлю малінавак куццёй
І з кульбакай, з кайстрою за спінай
Знікну ў вечару імгле густой.

На расстаннях дальніх вандраванняў,
Як пчала мядовую расу,
Сабяру пявучыя паданні
І табе, наш родны, прынясу.

Просты і крывавы, незабыты,
Ты жывеш у глыбіні людской…
Згінуўшым, абпаленым, забітым,
У дамавіне ўсім адзін спакой.

●

Я дома. Хмарай-цішынёй
Мяне страчаюць лес і далеч.
На печы цёпла. За сцяной
Бабулі-елкі задрамалі.

Іх не дабудзіцца пурга,
Ні звер, ні вокліч чалавечы.
Тс! З дамавіхай качарга
Зашапялявілі ля печы.

Як жудасна! Пявун-машнік
На жэрдцы мроіць, як кудзеля.
Прарочыць бурны красавік
Зімовага страсаннем пер'я.

●

Старая гне з дакорам
Пра пекла й маладосць.
У зеніце пуху горы
Вось-вось лінуць, як дождж.

Як цяжанька на кроснах
Ткаць кужаль-палатно!
Расплакалася ў соснах
Пургі верацяно.

Каханне — нітка ў бёрдзе,
Упусціш — не звязаць.
Запомнілася цвёрда:
Прыгож быў, што й казаць!

У лесе пад мядзведзем
Сканаў ліхі ляснік…
Плакучых дум суседзям
Не вымавіў язык.

Усё выплакана кроснам —
Льняному палатну.
Не век гуляць між соснӑў
Пургі верацяну.

А дом — гняздо цяцеры,
Дзе кужаль-лёс даткаць.—
Губляюць хмары пер'е
У лясную цемру й гаць.

●

Я быў чаровен і крылат
У айца-Бога пад страхою,
І райскія крынаў* арамат
Мне быў уцехай і ядою.

Айчыны райскае збавён,
Прыняўшы вобраз чалавечы,
Люблю я сосен перазвон,
Малітвасловячы пустэчы.

Ды не хапае аднаго
Душы ў пакутным гэтым свеце,—
Каб над палямі, ўлонnem вод
Стогн болю не разносіў вецер.

Каб не кідаў на брата брат
Варожых позіркаў пякучых.
Прастор палёў, бы ўвесну сад,
Увесь у ружах быў цвітучых,

І каб украсці чалавек
Вянок стварыцеля не браўся,
За што, адрынуты навек,
Я з песнякрыллем развітаўся.

* Крын (царкоўнаславянск.) — лілея (аўт.).



# «Канфлікт на Белай дачы»

**Пад такой назвай у № 9 «ЛіМа» за 1 сакавіка г. г. быў змешчаны калектыўны ліст супрацоўнікаў РНМЦ культуры. Рэдакцыя атрымала адказ на гэтую публікацыю за подпісам міністра культуры БССР Я. К. Вайтовіча. У ім гаворыцца:**

«Разгледзеўшы зварот супрацоўнікаў Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры ў адрас Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, а таксама адпаведны ліст, надрукаваны ў штотыднёвіку «ЛіМ», паведамляем наступнае.

У лістападзе 1990 года на пашыраным пасяджэнні калегіі міністэрства з удзелам кіраўніцтва Савета Міністраў БССР, пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета БССР, творчых саюзаў, органаў і ўстаноў культуры была падтрымана прапанова аб стварэнні на базе Рэспубліканскіх навукова-метадычнага цэнтра культуры, інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры і метадычнага кабінета па навучальных установах мастацтва і культуры Беларускага інстытута праблем культуры. Гэта прадыктавана тым, што грувасткасць названых устаноў, драбленне функцый, дубліраванне ў рабоце прывяло да прыкметнага зніжэння іх уплыву на працэсы, што адбываюцца ў культурным жыцці рэспублікі. Стварэнне ж адзінага навукова-даследчага і метадычнага цэнтра дазволіць, цесна спалучаючы навуку і практыку, на больш высокім узроўні весці распрацоўку актуальных праблем нацыянальнай культуры, метадычнае забеспячэнне дзейнасці ўстаноў культуры і мастацтва, навучальных устаноў, уключаючы перападрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў, больш рацыянальна выкарыстоўваць дзяржаўныя сродкі. Што датычыць РНМЦ культуры, то яго дзейнасць у апошнія гады, асабліва пасля пераводу на новыя ўмовы гаспадарання, не адпавядае ўжо патрабаванням ні органаў і ўстаноў культуры рэспублікі, ні міністэрства.

У сувязі з вышэйпададзеным Міністэрства культуры ўнесла ў Савет Міністраў БССР праект пастановы, узгоднены з Дзяржэканомпланам БССР, Дзяржкампрацы БССР, Міністэрствам фінансаў БССР і Мінскім гарвыканкомам, аб стварэнні ў г. Мінску Беларускага інстытута праблем культуры.

У структуры новага інстытута прадугледжана таксама стварэнне Цэнтра фальклору на Белай дачы, які будзе каардынаваць намаганні навукоўцаў і практыкаў па адраджэнні, захаванні і прапагандзе нацыянальнай спадчыны, базай практыкі для слухачоў інстытута (а іх бывае штогод каля 2-х тысяч). Таму міністэрства і выказала прынцыповую нязгоду са спробай кіраўніцтва РНМЦ культуры (якое не палічыла неабходным нават параіцца з вышэйстаячым органам) стварыць на базе Белай дачы малое прадпрыемства, а фактычна кааператыў, які б займаўся ў асноўным камерцыйнай дзейнасцю. Дарэчы, і Кастрычніцкі раённы і гарадскі суды г. Мінска адмовілі ў іску кіраўніцтва РНМЦ культуры да Кастрычніцкага райвыканкома аб рэгістрацыі малога прадпрыемства на базе Белай дачы — помніка архітэктуры мясцовага значэння.

Іншыя факты, выказаныя ў звароце, не адпавядаюць рэчаіснасці. Усе пытанні, звязаныя з вызначэннем мадэлі будучага інстытута, асноўных напрамкаў дзейнасці, яго структуры прапрацоўваліся ўтворанай міністэрствам рабочай групай, у склад якой уваходзілі навукоўцы і практыкі, кіраўнікі або спецыялісты ўстаноў, на базе якіх ствараецца інстытут (у тым ліку і РНМЦ культуры).

Пасля прыняцця Саветам Міністраў БССР адпаведнага рашэння ва ўсіх гэтых установах будуць праведзены з удзелам прадстаўнікоў прафсаюзных і юрыдычных органаў сходы працоўных калектываў па ўсіх пытаннях стварэння новага інстытута».

# СПАТКАННІ ПАСЛЯ СУСТРЭЧ

Да фестывалю «Славянскія тэатральныя сустрэчы» просіцца невялікае пасляслоўе, а менавіта — пра плён дачыненняў творчых тэатральных людзей. Вядома, што на фестывалі паралельна з афіцыйнаю была прадстаўлена і неафіцыйная праграма для, так бы мовіць, больш грунтоўнага азнаямлення гасцей з беларускім тэатральным мастацтвам. Вынікам агледзін-знаёмстваў сталіся шматлікія запрашэнні для творчага абмену і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. Мона-спектакль рэжысёра В. Тарнаўскайтэ «Выгнанне ў рай» запрошаны на прагляд у Кіеў (украінскія госці адзначылі вартасць работы Г. Дзягілевай у ролі Рагнеды); Пляцавы тэатр пад кіраўніцтвам А. Паніна разам са спявачкаю Н. Мікуліч — у Славакію, Тэатр - студыя Р. Таліпава — на камерцыйныя гастролі па Славеніі і Аўстрыі. Самога рэжысёра запрасілі папрацаваць у гэтых краінах, а рэжысёр і дырэктар фестывалю-кірмашу з Аўстрыі А. Мешнік у жніўні — верасні сёлетняга года бярэцца ажыццявіць пастаноўку на сцэне таліпаўскага тэатра-студыі.

**НАШ КАР.**

# Барахолка

(Пачатак на стар. 5).

А над усім гэтым, на ўсю катушку музыка з розных магнітафонаў, таксама прынесеных на продаж. З аднаго грыміць модны шлягер: «Пацаны, пацаны, вы держите штаны, от девчонок держите штаны!», другі магнітафон абвінавачвае белую акацыю, якая нечага там натварыла, трэці проста б'е па мазгах рытмамі.

Адкуль бяруць тавар гандляры? З магазінаў, канечне. Па тым, чаго сёння асабліва шмат на барахолцы, можна здагадацца, што напярэдадні трапіла ў магазін ды так і не дайшло да прылаўка, прыплыло са складаў, з падсобак сюды: дэзадарант, парфума, калготкі, чай, кава, патэльні (цана таксама жахлівая — сто пяцьдзесят рублёў патэльня!).

І яшчэ адна дэталь, быццам з пасляваеннага жыцця. Сядзіць на базары малады барадаты мужчына і іграе на гармоніку шчымлівыя мелодыі. Перад ім — капялюш, куды жаласлівыя жанчыны кідаюць грошы. Але пасля вайны такія канцэрты наладжвалі інваліды, цяпер — маладыя, здаровыя хлопцы.

Я не за тое, каб разагнаць гэту барахолку. Няхай жыве. Калі дзяржава не можа трымаць гандаль у цывілізаваных формах, няхай ён існуе хаця б у пачварных. Ды як ты цяпер яе і разгоніш, не пасылаць жа на Камароўку танкі!

Але прыходзіць успамін. Не так даўно я пабывала ў Францыі, хадзіла па Парыжы. І ўвесь час дзівілася — як жа тут усё створана для чалавека, каб яму было зручна, выгадна. Усе ўзаемаадносіны людзей дзеля іх жа выгады.

Па ўсіх вуліцах, скрозь — кавярні, рэстаранчыкі, на першых паверхах тут не жывуць, першыя паверхі займае гандаль. І проста на вуліцы гандлююць — тут жывою рыбаю проста з акварыума, там блінцы пякуцца на жароўні, там адмысловыя піражкі, там гародніна, садавіна — адборная, чыста вымытая, прадаўцы стаяць, чакаюць, пакуль хто падыдзе, выбярэ, купіць.

Цэлыя кварталы ў Парыжы — крамы з прамысловымі таварамі. Чаго варта адна галерэя Лафайет. І ў кожнай краме — чысціня, парадак, сустракаюць пакупніка з ветліваю ўсмешкаю, дапамагаюць выбраць тавар, а калі што купіш, то так табе загорнуць, што люба ўзяць у рукі той пакунак. І яшчэ дзякуй скажуць, што купіла.

Гаспадары кавярняў, рэстаранчыкаў стараюцца адзін перад адным, бо канкурэнцыя: калі ў цябе будзе нясмачна і дорага, то да цябе ніхто не пойдзе. Калі ты будзеш думаць, як лепей дагадзіць чалавеку, здолееш нешта зрабіць для яго выгады, то і сам забагацееш. А будзеш абыякавы да яго — то і прагарыш. Вось гэта і называецца рынкам, якім нас так палохаюць.

Тут, у Францыі, адна ідэалогія — усё рабіць для выгады людзей, тут працуюць, каб жыць, а не жывуць, каб толькі працаваць і існаваць.

Наша эканоміка існуе невядома для чаго — для плана, для вала, для ідэалогіі. Каб баронь божа не адступіць ад ідэалагічнага накірунку і не страціць камуністычнай перспектывы. А ў перспектыве аказалася барахолка. І думаю, пакуль наша эканоміка не павернецца тварам да чалавека, пакуль дзяржава не пачне служыць людзям, з барахолак мы не выберамся.

Апошнім часам нашу эканоміку быццам і стараюцца павярнуць да патрэб чалавека, але, мне здаецца, толькі на словах. Ды заржавелую, агромністую махіну не так лёгка і павярнуць.

А трэба. Неабходна.

Славамір АНТАНОВІЧ

# «БЫЦЬ ІДЭЙНА-СВЯДОМЫМІ!»

## Заўвагі на палях стэнаграмы красавіцкага (1974 г.) пленума ЦК КП Беларусі

ЯК ВЯДОМА, П. Машэраў, першы сакратар ЦК КП Беларусі, у сваёй дзейнасці шмат увагі надаваў пытанням ідэалогіі, выхаванню кадраў. Ён патрабаваў, каб у кожным дакладзе, выступленні абавязкова былі раздзелы, прысвечаныя праблемам ідэйна-палітычнага выхавання людзей. Зрэшты, пасля XXIV з'езда (1971 г.) за тры гады ЦК КПСС прыняў звыш 30 вялікіх, прынцыповых, як тады лічылі, пастаноў па пытаннях ідэалагічнай работы. Сярод іх: аб арганізацыі сацспаборніцтва, аб эканамічнай адукацыі насельніцтва, па пытаннях інтэрвыхавання, аб ідэйна-выхаваўчай рабоце працоўных калектываў, аб павышэнні патрабавальнасці да кіруючых кадраў, аб удасканаленні сярэдняй і вышэйшай адукацыі, аб задачах грамадскіх навук, кінематаграфіі, літаратурна-мастацкай крытыкі і г. д.

Зразумела, абмеркаванне гэтых пытанняў на пленумах ЦК Кампартыі, крайкомаў і абкомаў партыі, на сходах актыву ішло з нарастаючымі тэмпамі. Адзін адказны партыйны работнік ЦК КПСС паведаміў удзельнікам пленума ЦК КПБ унушальную лічбу: больш чым 500 разоў. «Мы можам сказаць, што практычна ЦК партыі закранаў усе асноўныя пытанні ідэалагічнай работы», — прызнаўся ён.

29—30 красавіка 1974 года ў Мінску адбыўся сумна вядомы пленум ЦК КПБ. На пасяджэнне «па спісу» запрасілі сакратароў абкомаў партыі, намеснікаў старшынь аблвыканкомаў, якія займаюцца пытаннямі ідэалагічнай работы, першых сакратароў гаркомаў і райкомаў партыі, якія не ўваходзілі ў састаў ЦК КПБ, сакратароў партыйных камітэтаў на правах райкомаў партыі, кіраўнікоў міністэрстваў, ведамстваў і арганізацый рэспублікі. У парадак дня ўключылі два пункты: «Аб далейшым павышэнні дзейснасці ідэйна-палітычнай работы ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС» і арганізацыйныя пытанні.

Адкрыў пленум П. Машэраў. Пасля абавязковых у той час працэдур: галасавання па парадку дня, рэгламенту і г. д. старшынствуючы Аксёнаў даў слова дакладчыку.

Бадай, гэта быў самы працяглы па часе даклад (Машэраў прачытаў яго за чатыры гадзіны), ён уключаў тры раздзелы:

I. Умацаваць сувязь ідэйна-выхаваўчай работы з вытворчасцю, з рашэннем эканамічных задач, усямерна ўзмацняць яе ўплыў на прадукцыйнасць працы людзей.

2. Усямерна павышаць ідэйна-палітычную сталасць і ўзровень ведаў нашага народа, узбагачаць яго духоўны, маральны патэнцыял.

3. Удасканальваць стыль і метады партыйнага кіраўніцтва камуністычным выхаваннем.

Як вядома, рыхтаваўся пленум пры непасрэдным удзеле загадчыкаў аддзелаў ЦК КПБ: арганізацыйна - партыйнай работы — І. Якушава; прапаганды і агітацыі — С. Паўлава; навукі і навучальных устаноў — А. Караткевіча; культуры — А. Петрашкевіча; адміністрацыйных органаў — Г. Жабіцкага і іншых.

Агульнае кіраўніцтва падрыхтоўкай пленума ажыццяўляў сакратар ЦК КПБ А. Кузьмін.

ПЕРШ ЧЫМ ПЕРАЙСЦІ да аналізу даклада, звернемся да некаторых «прыдворных» гісторыкаў, думкі якіх знайшлі адлюстраванне ў дакладзе. Адзін з іх — доктар гістарычных навук, член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР, прафесар Лаўрэнцій Сямёнавіч Абэцэдарскі, даследчык беларускай гісторыі XVI—XVII стст., аўтар школьных падручнікаў па гісторыі БССР. З 1958 па 1975 (год смерці) узначальваў кафедру гісторыі БССР у БДУ імя У. І. Леніна. Падганяў гістарычныя факты пад загадзя сканструяваную схему, а ўсё, што супярэчыла гэтай схеме,— адкідаў або не прымаў у разлік («ЛіМ» № 3, 8 чэрвеня 1990 г., Сямён Падокшын. «Абэцэдаршчына»), наўмысна скажаў, свядома фальсіфікаваў, кіруючыся кан'юнктурнымі меркаваннямі.

У 1965 г. выйшла ў свет манаграфія А. Коршунава «Афанасій Філіповіч». На яе адгукнуўся М. Прашковіч, змясціўшы ў часопісе «Полымя» рэцэнзію. У ёй у самым агульным выглядзе закраналася пытанне пра беларускую дзяржаўнасць у межах Вялікага княства Літоўскага, што выклікала энергічны пратэст Л. Абэцэдарскага на старонках таго ж часопіса. Ішоў 1966 год, эпоха «застою» толькі-толькі пачыналася.

Канцэптуальныя палажэнні Л. Абэцэдарскага набылі адыёзны характар у пік «застойнага перыяду». У сваім артыкуле «Нужны точные оценки», апублікаваным 17 мая 1973 года ў газеце «Советская Белоруссия», ён у лепшых традыцыях вульгарнага сацыялагізму 30-х — пачатку 50-х гг. выкрываў шэраг аўтараў за тое, што яны ў сваіх творах асвятлялі жыццё і погляды выдатных мысліцеляў і культурных дзеячаў Беларусі — Ефрасінні Полацкай і Лаўрэнція Зізанія Тустаноўскага, якія, на «няшчасце», былі ў «злачыннай сувязі» з царквою, паколькі першая з'яўлялася манашкай, а другі — багасловам.

**Вось некаторыя «перлы» з таго артыкула: «Ефросинья Полоцкая была враждебна подлинной науке и подлинному просвещению», «пересказ «житий святых», даже с гарниром любовной интриги... не отвечают ни задачам коммунистического воспитания молодежи, ни требованиям, которые предъявляются к историческому жанру художественной литературы», «нельзя забывать, что Мелетий Смотрицкий и Лаврентий Зизаний и другие защитники православия прежде всего были богословами, стремившимися упрочить господство своей церкви над народными массами».**

Аднак абвяржэння поглядаў прафесара не паследавала, бо Л. Абэцэдарскі карыстаўся даверам у рэспубліканскіх дырэктыўных органаў — як кансультант па пытаннях беларускай гісторыі. Што гэта так, пацвярджае пленум ЦК КПБ, пра які вядзём гутарку.

**«Перед лицом столь масштабных задач особо острыми становятся вопросы партийной ответственности ученого, четкости его мировоззренческих, классово-политических позиций. Об этом приходится напомнить в связи с тем, что в некоторых публикациях, в том числе о народных поэмах «Энеида навыворот» и «Тарас на Парнасе», в работах о Ефросинии Полоцкой, Смотрицком, Зизании проявились отголоски внеклассового объективизма, идеализации отдельных богословов как выдающихся просветителей. За такими перекосами в толковании общественных явлений у отдельных исследователей подчас обнаруживаются взгляды, находящиеся в противоречии с ленинскими принципами науки и непреложными идейными принципами нашего общества»,** — говарыў дакладчык П. Машэраў.

У дакладзе многія памылковыя вывады прафесара паўтарыліся, хоць палітычнае кіраўніцтва рэспублікі ў сваіх ацэнках павінна было арыентавацца не на той ці іншы навуковы аўтарытэт, а на ісціну, народжаную ў свабодных дыскусіях, спрэчках, у творчым спаборніцтве ідэй, канцэпцый, пунктаў гледжання, дабразычлівых і цярпімых адносінах да ўсякага творчага іншадумства.

Гэты фарс дорага абышоўся беларускай гістарычнай навуцы. Узровень вышэйшай і школьнай адукацыі ў галіне беларускай гісторыі значна знізіўся, адсутнічалі глыбокія і наватарскія навуковыя распрацоўкі па цэлым шэрагу праблем.



І. МЕЛЕЖ, П. М. МАШЭРАЎ, М. ЛЫНЬКОЎ. Возера Нарач. 1972 г.

Фота Ул. КРУКА.

Дакладчык падвергнуў крытыцы «националистический привкус некоторых концепций и взглядов», якія выражаюць навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР М. І. Прашковіч, «падпявалы» Прашковіча — супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР С. Міско, работнік БелСЭ В. Рабкевіч, выкладчык Мінскага інстытута замежных моў П. Дзядзюля. «Партийная организация, общественность АН БССР,— падсумаваў свае думкі П. М. Машэраў,— дали принципиальную оценку этим фактам, решительно развенчали моральную нечистоплотность и идейную разоруженность отдельных работников».

Мана і фальш, свядомая няпраўда ўліваліся ў даклады ЦК без перашкод, бо навукоўцы тыпу Абэцэдарскага і яго кампаніі карысталіся гістарычнай непісьменнасцю кіруючых ідэалагічных кадраў рэспублікі. Відаць, па гэтай прычыне быў забаронены ў 1974 годзе міжнародны сімпозіум па этнагенезе беларусаў. Чаму так занепакоіў гэты сімпозіум П. Машэрава? Якіх негатыўных вынікаў чакала кіраўніцтва рэспублікі ад навуковай размовы пра паходжанне беларусаў?

Доўгія часы занядбання гісторыі, а то і яе фальсіфікацыі, гістарычнага беспамяцтва абарочваюцца вялікімі выдаткамі духоўнага жыцця нацыі. Першая палавіна 70-х гадоў для Беларусі, як і для суседняй Украіны, была, між іншым, часам палявання на ведзьмаў. Адпаведная служба, абапіраючыся на шырокі ідэалагічны актыў, заўзята шукала, выкрывала, ляпіла ярлыкі і абясшкоджвала «нацыяналістаў», тых, хто быў супраць брэжнеўска-суслаўскіх тэорый паскоранага зліцця нацый і стварэння «новай супольнасці».

Праўда, у нас, у адрозненне ад Украіны, «нацыяналістаў» тады не саджалі. На думку П. Машэрава, магчымасць нацыянальнага адраджэння на Беларусі ўжо канчаткова ліквідаваная, а таму дзейнасць «нацыяналістаў» не ўяўляе вялікай небяспекі. «Разговоры об этом — это преувеличение, плод чрезмерной подозрительности», — падсумаваў дакладчык.

Забягаючы наперад, спынюся на адным нюансе. Звычайна ў канцы работы пленумаў апошнім выступаў прадстаўнік ЦК КПСС, затым дакладчык браў заключнае слова. Аднак П. Машэраў «падагульняў» ідэалагічны пленум пасля апошняга прамоўцы — П. Петрыкава, сакратара парткома АН БССР. Відаць, меркавалі, што ён ва унісон з іншымі сікафантамі пад апладысменты скажа, якое вялікае ўздзеянне аказаў на яго партыйны форум, наколькі дальнабачны быў партком АН БССР, расправіўшыся з іншадумцамі напярэдадні пленума ЦК КПБ. У газетных справаздачах з пленума, якія падрыхтавала БЕЛТА, гэты «шэдэўр-прамова» пададзены ў двух кароткіх абзацах. Пільныя ідэалагічныя цэнзары ўразумелі, якую рэакцыю выклічуць перлы - выказванні П. Петрыкава. Таму варта нагадаць сёе-тое з таго, што людзі не здолелі пачуць і прачытаць.

Са стэнаграмы.
**П. ПЕТРИКОВ,**
секретарь парткома
АН БССР:

**— Одна из основных причин негативных явлений в Академии наук заключается, как об этом правильно говорилось в докладе, в недостаточном идеологическом обеспечении научно-производственной деятельности. В условиях продолжающейся острой классовой борьбы подготовка специалистов высокой квалификации еще не решает дела. Нашей науке нужны не просто хорошие работники, а убежденные борцы за великие идеалы коммунизма.**

**...Выполняя указания вышестоящих партийных органов, партком и Президиум Академии наук усилили внимание к идеологическому воспитанию кадров.**

**...В последнее время в Академии наук была подвергнута суровой критике компания собутыльников и неустойчивых в идейном отношении лиц, которые во время пьяных сборищ высказывали неправильные, националистические по содержанию взгляды о якобы существующем в Белоруссии засилии русских, ущемлении прав белорусского народа в развитии языка и культуры, целесообразности выхода БССР из состава СССР, изменении границ за счет присоединения к Белоруссии части территории Российской Федерации, Латвии и Польши и т. д.**

**Изучение вопроса показало, что их «запевала» старший научный сотрудник Института литературы кандидат филологических наук Прашкович — безнадежно отставший в науке и морально опустившийся человек. Он систематически пьянствовал, нарушал трудовую дисциплину, не проявлял активности в общественной политической жизни. Его «коллега», кандидат наук Института искусствоведения, этнографии и фольклора Миско несколько раз попадал в медвытрезвитель, за плохое выполнение производственных обязанностей понижался в должности, имел взыскания. С червоточиной оказались и три других участника этой одиозной компании.**

**На партийном собрании и заседании ученых советов коммунисты институтов литературы, языкознания, истории, искусствоведения, этнографии и фольклора, главной редакции БелСЭ дали принципиальную оценку этому уродливому в наши дни явлению и потребовали выдворения их из Академии наук. В соответствии с существующим законодательством ученые советы институтов тайным голосованием приняли единодушные решения о несоответствии этих лиц занимаемым должностям научных сотрудников. Тем самым ученые решительно осудили их омерзительные высказывания и поступки, их поведения, несовместимые с работой не только в академии, но и на идеологическом фронте вообще.**

**...Кадровая политика ЦК КПБ привела к серьезным положительным сдвигам, во главе ряда институтов были поставлены новые инициативые работники...**

УЛІЧВАЮЧЫ «актуальнасць і каштоўнасць» палымянай прамовы П. Петрыкава, арыгінальнасць выказаных думак і прапаноў, яго ўключылі ў камісію па выпрацоўцы пастановы пленума ЦК КПБ. Відаць, у пэўных колах ён ужо набыў папулярнасць і аўтарытэт яшчэ раней, калі ў 1972 годзе выдаў «гістарычнае» даследаванне «Советы депутатов трудящихся БССР и их роль в создании материально - технической базы коммунизма» (1959—1965 гг.).

«Бліскучае» выступленне і глыбокія даследаванні паспрыялі таму, што прамоўца і аўтар навуковай работы хутка стаў членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР, на якога яшчэ працяглы час апіраліся асобныя ідэолагі высокага партыйнага эшалона пры падрыхтоўцы новых сумна вядомых пастаноў.

**HOMO HUMANUS**

# Ці магчыма ў нашай краіне шчасце?

**Скажу шчыра: я ўжо пэўны час сумняваюся ў правільнасці навакольнага свету — таго свету, дзе я жыву, існую, стасуюся, пакутую і весялюся. Здаецца, гэта свет падманнай гармоніі і несапраўднай, «скупой» радасці; гэта свет дужага выпівання і неразборлівых сексуальных дачыненняў, і як вынік — унутранай спустошанасці чалавека. ГЭТА СВЕТ ІЛЮЗІІ ШЧАСЦЯ.**

Але пакаюся, шаноўная грамада, што менавіта шчаслівыя ілюзіі ваш сціплы слуга чамусьці свядома захоўвае і падтрымлівае недзе ў глыбіні душэўных фібраў. Можа, гэта самападман і досыць недарэчны комплекс ва ўласнай ментальнасці... Што ж зробіш, калі да першага самастойнага заробку жыў святой упэўненасцю ў тым, што птушка шчасця вось-вось узмахне банкнотным крылом, апусціцца, прабачце, ў кішэню і болей не ўзляціць: праб'е час і майго прызямлення пасля школьна-юнацкага летуценніцтва. Але... Але я і сёння «як у мора» кідаюся ў мроі і глыбока не ўпэўнены, што калісьці адбудзецца «эканамізацыя» майго светапогляду. Мне гэтага ўжо нават і не хочацца.

...Імідж рэспектабельнага, вынаходлівага, інтэлігентнага, — забяспечанага — савецкага чалавека стварылі калегі-журналісты: вядучыя праграм ЦТ, шоу-віктарын, рэкламных зацінак. Гледзячы на выкшталцоных, абаяльных, тактоўных журналістаў-акцёраў, мы, згадзіцеся, міжволі імкнёмся быць падобнымі на іх. Разам засвойваючы неа-лексіку, у якой многа ангельскіх словаў і лацінскіх крылатых выразаў. Але мне на сённяшні дзень не дае супакою здагадка: куды вяртаюцца «бліскучыя» тэлежурналісты-шоумэны пасля эфіру? Думаю, што ў звычайныя кватэры са звычайнымі (лепей сказаць — незвычайнымі) сучаснымі праблемамі. Тым не менш экран прымушае іх забыцца на жыццёвае пекла і вырабляць артыстычныя цуды, выцягваць культурны рэйтынг савецкага грамадства. Так і ствараецца парадыгма савецкай культуры: уяўляем сябе панамі, а жывём жабракамі. Нават рыфмуецца. А парадыгма гэтая спрацоўвае ў самых розных сферах жыцця «жалезна», як кажуць у войску. Возьмем хаця б бягучы год. Калі лілася кроў у Вільні, з тэлескрынкі чуўся звон келіхаў і пырскала шампанскае ў «Аляксандр-шоу». Калі прэм'ер-міністр са скрухай паведамляў аб красавіцкім жарце з цэнамі, «Капітал-шоу» заўзята інтрыгуе нас магчымасцю «лёгкага» абагачэння ў тэлегульні. Добра, калі такі «тонкі» гумар усё-такі разумеецца, а калі і да смяртэльнай пасцелі «панскі» комплекс трывала захаваецца?

Але, можа, на інтэлектуальным фронце нам няма роўных? Праблематычна вычытаў у маскоўскага публіцыста наступнае: большасць насельніцтва СССР такое ж непісьменнае, як непісьменныя жыхары краін Азіі і Афрыкі, калі пад пісьменнасцю падразумяваць не звычайную спрактыкаванасць лічыць грошы або складваць прашэнні народным дэпутатам, а здольнасць арыентавацца ў сучасных сістэмах інфармацыі і тэхналогіі. Лічбы ў доказ хай прыводзяць лектары таварыства «Веды», а мне дык хопіць нагадаць аб собскім «журналістычным» узроўні. Увесь «цывілізаваны» свет здаў у музей рарытэтаў пішучую машынку, не кажучы пра аловак: цяпер нормай з'яўляецца камп'ютэр з лазернай друкарскай прыладай. Заходні журналіст як мінімум узброены дыктафонам з суперадчувальным мікрафонам, фотакомплексам з наборам ліхтарань, мае тэлекс. Мы ж, журналісты рэспубліканскага друку, мабыць, да скону «да штыка прыраўнялі пяро», і толькі стасункі на прэс-канферэнцыях з заходнімі калегамі прымушаюць ніякавець і па-сапраўднаму задумвацца, «што такое» сучасны журналіст. Нядзіўна, што прайграем у спаборніцтве мы з заходнімі сродкамі масавай інфармацыі на аператыўнасць. Так што і на інфармацыйным рынку справы нашы дрэнь. Але па закону згаданай парадыгмы культуры пестуны факультэта журналістыкі таго ж БДУ яшчэ на прафесійным досвітку мрояць аб нейкіх «лаўрах бакалаўра», пра якія на ўстаноўчай лекцыі для 1-га курса распавёў спадар дэкан, а не засвойваюць сучасны журналізм у параўнаннях.

Асабіста я цешуся прагнозам футуралагічнага даследавання, выдадзенага напрыканцы мінулага года ў Парыжы: у 1980 — 2020 гадах распадзецца «грамадства спектакля», дзе пануюць сродкі масавай інфармацыі, прапаганда, рэклама і дэзінфармацыя, паўсюдна надыдзе беднасць і разладжанасць. І толькі затым пачнецца існая адукаванасць і адэкватнае прыродзе чалавека спажыванне. Так што марна ўдасканальваюць свае здольнасці заходнія калегі: іх чакае беспрацоўе! А вось нам, браткі, трэба прагрэсіраваць — у нас такі адступ калі і пачнецца, дык, відаць, значна пазней. Калі толькі пачнецца...

Такім чынам, у рэальнасці мы застаёмся самымі сапраўднымі пралетарыямі разумовай працы, і нараджэнне адзінкавых, хай нават і супер-геніяў для свету не кампенсуе гэтых хіб. «Жабракі духам»?

Утаймаваць адвечныя айчынныя прэтэнзіі на сусветнае інтэлектуальнае лідэрства добра дапаможа адэкватнае разуменне матэрыяльнага аспекту нашага жыцця ў адзінавыняткавай краіне свету. У мяне тут ёсць нават свая філасофія **неда-шчасця** савецкіх людзей, якой і дзялюся. Перш прапаную безумоўны імператыў — хто яго падзяляе, можа чытаць астатні тэкст: галоўнае — не ў якасці матэрыяльных сродкаў, а ў спосабах іх выкарыстання. (Можна ж увогуле і гадзіннікам цвікі забіваць, ды гэта будзе выглядаць не зусім слушным). Стары імператыў. Ён нечакана нагадваецца, калі я спрабую адказаць на пытанне: «У чым сэнс жыцця маіх бацькоў, і ці адбыўся які-колечы прагрэс ва ўмовах іх працы і адпачынку?» Не! Мае старыя па-ранейшаму з'яўляюцца заложнікамі манатоннай працы, пракрустава ложа якой гвалтуе душу, бо няма хвілі перадыху. Як і 20 гадоў назад, мае бацькі разам з вяскоўцамі тупаюць на саўгасную ферму ў тых жа гумовых ботах і ватоўках, выконваюць тыя ж дзеянні. **Сэнс працы не змяніўся:** яна цяжкая, ручная і, галоўнае, не прыбытковая. Больш таго, як і 20 гадоў назад ці не ўся вёска, прабачце, нясе з фермы муку для ўласнай жывёлы: чаму парабку і не ўмыкнуць трохі спажывы ад сацыялістычнага феадала! Баліць сэрца...

Разумею, што не ва ўсіх вёсках такія нормы, разумею... Затое іншыя ёсць. Прыкладам, у суседняй вёсцы збіраюцца паставіць залаты помнік Гарбачову за супрацьалкагольны ўказ: вёска знаходзіцца каля самай пушчы і за «перабудовачныя» гады здолела «скалаціць» капітал на... самагонцы. Людзі хочуць жыць з прыбыткам. Нават «па той бок дабра і зла».

Чаму мы жывём у свеце гэткіх норм? Мой вясковы сусед — саўгасны каваль, якому за 60 год, прынамсі, схіляецца да наступнай думкі ў гэтым пытанні: «Бальшавікі толькі на картовыя нагавіцы дадуць зарабіць». Такая своеасаблівая канстатацыя таго факту, што «партыю з партыяй» народ прайграў.

Асабіста мне ж усё роўна, хто вінаваты ў нашым жабрацтве: камуністы, сіонскія мудрацы або зайздроснікі Расіі: мне патрэбна асалода жыцця, як, спадзяюся, і вам, шаноўныя спадары. Зусім не эпікурэйская асалода, калі свядома закрываеш вочы на грахоўную рэчаіснасць: мне патрэбна, як і Артуру Шапэнгауэру, «сознательно наслаждаться каждой сносной минутой, свободной от неприятностей и боли» («Философия счастья»).

Дык вось, стары імператыў сведчыць пра тое, што асалода наша мусіць быць змардаванай, цяжкай, бо пры змене побытавых рэчаў, прадуктаў харчавання — матэрыяльнага базісу, як сказаў бы Маркс — не змянілася, калі хочаце, філасофія спажывання, наша становішча ў свеце рэчаў. Яно не мяняецца ці не на працягу апошніх 50-ці гадоў: жыццё навязвае савецкім людзям жабрацкую сістэму спажывання, у якой ці не галоўным кіруючым матывам з'яўляецца не творчая, акрыленая праца, а нястомная барацьба за хлеб надзённы, імкненне пракарміць сям'ю і апрануцца. Не болей. Жыхары Захаду працуюць, натуральна, не толькі для таго, каб па-людску харчавацца і кожны сезон змяняць стыль адзення: мэта заробку — паездзіць па свеце, паглядзець яго дзівы, «пожить в свое удовольствие», як кажуць расейцы.

У нас асалода ці не праз стогны. Мае ж бацькі беспрасветна барукаюцца ўсё жыццё на ферме, а ўвесь «свабодны» час аддаюць падвор'ю, каб было «ўсё сваё». Маё адрозненне ад іх толькі ў тым, што я зацугляюся ў іншы жорсткі жыццякруг: патраплю ў пякельны вэрхал гарадскога соцыуму, і мой гадзіннік пабяжыць у шматлікіх чэргах, «левых» заробках, трыванні цэнавых фокусаў, хваляванні за жыллё, якое свеціць гадоў праз 10. Се ля ві, нічога не папішаш. Народзіцца ў такіх умовах дзіця — і дзеля яго я павінен канчаткова ахвяраваць асабістай свабодай, як у свой час мае старыя дзеля мяне... Усё паўтараецца. Як бачым, грамадства функцыянуе па закону фатальнага **неда-шчасця** пакаленняў.

Але тут прадбачу, і яно мне ўжо нават чуецца, суровае пытанне Чытача: «Вы хочаце сказаць, спадар, што наша шчасце заганнае, непаўнавартае — **несапраўднае**? А ці ведаеце вы, шаноўны, што такое шчасце ўвогуле?» Браточкі мае любыя, я сам першы кінуся на таго, хто паспрабуе адмовіць у праве на шчасце нават самым прыніжаным і пакрыўджаным нашым сабратам. І не буду чапаць не-нашага шчасця — амерыканскага альбо няўлоўна-агульначалавечага, бо і наша шчасце ёсць. **У нашай краіне ёсць шчасце!** Хай з пункту гледжання матэрыяльных варункаў яно сапраўды цяжкае (прыгадваюцца тут прароцкія словы персанажа аднаго з ранніх апавяданняў Андрэя Платонава «Наша краіна — краіна цяжкага шчасця!»), затое мы нават не здагадваемся, да якіх высакародных высот можна ўзняцца з гэтых цяжкасцей.

**Юрась ЗАЛОСКА.**




ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.







Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12